• выдаецца са жніўня 1917 г.   БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА   • кошт 3000 рублёў

1 жніўня 1998 г. субота, № 151 (23502)



# ЗВЯЗДА

ВЕРСІІ

## «АФРЫКАНСКІЯ» ПАЛОННІКІ ВЯРТАЮЦЦА?

**Як паведамілі днямі расійскія сродкі масавай інфармацыі, беларускія верталётчыкі, якія працяглы час знаходзіліся ў якасці заложнікаў у заходнеафрыканскай краіне Сьера-Леоне, у хуткім часе павінны вярнуцца на радзіму.**

Нагадаем гэты інцыдэнт. Больш за паўгода таму экіпаж верталёта МІ-8 (у састаў экіпажа ўваходзілі трое беларусаў і адзін расіянін), які працаваў па кантракту ў Сьера-Леоне, падчас путчу быў захоплены ў заложнікі сіламі ўзброенай апазіцыі. Пасля паражэння ад урадавых войскаў мяцежнікі прымусілі экіпаж верталёта пераправіць іх у суседнюю Ліберыю, дзе ўсе былі арыштаваныя злучэннямі міратворчага кантынгенту. Паколькі Беларусь не мае ўласных прадстаўніцтваў у краінах гэтага рэгіёна Афрыкі, за справу вызвалення заложнікаў узяліся расійскія дыпламаты. Іх шматмесячныя намаганні, паводле даных СМІ Расіі, урэшце далі плён, і ў бліжэйшы час усе чацвёра палоннікаў павінны вярнуцца на радзіму.

У Міністэрстве замежных спраў Беларусі, куды патэлефанаваў карэспандэнт «Звязды», пакуль не ўзяліся ні пацвердзіць, ні абвергнуць звесткі аб хуткім вяртанні беларускіх верталётчыкаў, паведамўшы толькі, што зараз гэтая інфармацыя пераправяраецца. Паводле запэўніванняў МЗС, канчатковая сітуацыя можа праясніцца ў бліжэйшыя дні.

**Сяргей ГРЫБ.**

## У МІНСКАГА МАНЬЯКА ВЫРАЗНЫ, УЛАСЦІВЫ ТОЛЬКІ ЯМУ ПОЧЫРК

**Ужо неаднойчы ў друку і па радыё згадвалася пра маньяка ў Мінску з канкрэтнымі прыметамі. Невысокага росту, недзе пад метр шэсцьдзесят пяць сантыметраў. Валасы светлыя. На выгляд — ад 30 да 40 гадоў. Звычайна ходзіць з поліэтыленавым пакетам альбо з сумкай, перакінутай цераз плячо. І гаварылася, і пісалася неаднойчы...**

Тым не меней — новая ахвяра. Зайшоў у пад'езд следам за дванаццацігадовай дзяўчынкай. Пачаў нешта плесці наконт таго, што разведзены, што хацеў бы перадаць пяць дзяўчынку пакунак свайму дзіцяці. Але дзяўчынка не паверыла, паспрабавала адысці. Гвалтаўнік прыставіў ахвяры нож, пад пагрозай забойства адвёў яе ў парк ля тралейбуснага кальца на вуліцы Маякоўскага. Згвалціў. Пасля адвёў на прыпынак...

Гэта не першы прыклад падобных дзеянняў. Хацелася б, каб і людзі старонніх былі больш уважлівыя да мужчын, якія некуды вядуць заплаканых дзяцей яўна супраць іх жадання. Пазваніце ў такім выпадку ў міліцыю, пашукайце паставога міліцыянера, самі заступіцеся за дзіця, словам, не будзьце раўнадушнымі. Гвалт магчымы ў маўклівым грамадстве.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## СТАРШЫ СЯРЖАНТ-КАНТРАКТНІК ЗГУБІЎ АЎТАМАТ І ДВА МАГАЗІНЫ З ПАТРОНАМІ

**Гродзенскай міжгарнізоннай ваеннай пракуратурай узбуджана крымінальная справа ў дачыненні да старшага сяржанта кантрактнай службы — камандзіра разведвальна-пошукавай групы Лідскага пагранічнага атрада.**

Паводле звестак Беларускай ваеннай пракуратуры, знаходзячыся пры выкананні службовых абавязкаў, старшы сяржант самовольна пакінуў часць і накіраваўся ў вёску Жымілаўе Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Там пасля распівання спіртных напояў з мясцовымі жыхарамі ён згубіў аўтамат АК-74, два магазіны з патронамі і свае дакументы. Усё згубленае было знойдзена супрацоўнікамі Гродзенскай міжгарнізоннай ваеннай пракуратуры менш чым праз суткі пасля здарэння.

Вядзецца следства.

**Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.**




Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## «СЕАНС» КАЛЕКТЫЎНАГА ЦАЛАВАННЯ

**Ён адбудзецца ў Мінску**

Самы «масавы пацалунак» на Зямлі будзе здзейснены ў Мінску ў пачатку верасня. Для таго, каб афіцыйна зафіксаваць гэты факт, у беларускую сталіцу з Лондана прыбудуць прадстаўнікі выдавецтва Кнігі рэкордаў Гінэса. Кола арганізатараў і спонсараў незвычайнай акцыі пакуль не вызначана. Але, як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, калектыўнае цалаванне некалькіх тысяч пар будзе адбывацца на фоне грандыёзнага шоу, у якім прымуць удзел «зоркі» беларускай і замежнай эстрады.

Цяпер рэкардсменамі ў «масавым цалаванні» з'яўляюцца амерыканцы, якія 14 лютага 1996 года прадэманстравалі свету адначасовы пацалунак 1420 пар.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## СТАЎКА РЭФІНАНСАВАННЯ ЗНІЖАНА НА ДВА ПУНКТЫ

Нацыянальны банк рэспублікі аб'явіў аб устанаўленні з 1 жніўня базавай стаўкі рэфінансавання на ўзроўні 38 працэнтаў гадавых. У параўнанні з папярэднім перыядам яна знізілася на 2 пункты. Гэта рашэнне прынята ў сувязі з паступовай стабілізацыяй інфляцыйных працэсаў і, на думку спецыялістаў банка, будзе садзейнічаць эканамічнаму росту ў краіне.

Як вядома, сёлета базавая стаўка рэфінансавання змяншаецца ўжо трэці раз. З 1 красавіка яна была знізана з 50 працэнтаў да 44, а з 7 мая — да 40 працэнтаў гадавых.

**БЕЛТА.**

## КАЦЕЛЬНІ ПЕРАВОДЗЯЦЦА НА... САЛОМУ

**Пра газ, электраэнергію, а таксама пра дровы, торф і нават пра салому ішла размова на нарадзе ў Гродзенскім аблвыканкаме, у якой удзельнічалі кіраўнікі раённых органаў улады, шэрагу ведамстваў і прадпрыемстваў.**

Пратэрмінаваны доўг прамысловых прадпрыемстваў аб'яднанню «Гроднаэнерга» складае 483 мільярды рублёў. А ўвогуле апошнія завінавацілася пастаўшчыкам 1 трыльён 220 мільярдаў рублёў. Запазычанасць спажыўцоў вобласці за расійскія прыродны газ па стану на 15 ліпеня — 645,8 мільярда рублёў. Прычым амаль палова гэтай сумы (312 мільярдаў рублёў) прыпадае на «Краснасельскцэмент».

На сённяшні дзень пастаўкі прыроднага газу з Расіі ў вобласць скарочаны прыкладна на 20 працэнтаў. І гэта, як падкрэслівалася на нарадзе, не мяжа. Чакаюцца яшчэ больш маштабныя абмежаванні. «Дзякуючы» неплацельшчыкам, у цяжкае становішча трапяць і тыя, хто разлічваецца за газ стопрацэнтна.

На нарадзе гаварылася пра неабходнасць (дзе гэта магчыма) пераводу кацельняў на дровы, торфабрыкет і нават салому. Акрамя таго, пастаўлена задача актывізаваць нарыхтоўку мазуту на зіму. Замест таго, каб выраблядь дарожны бітум, значная частка энергарэсурсаў пойдзе менавіта на мазут. Будуць распрацаваны графікі па абмежаванню энергазабеспячэння.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

### НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ І ГАДЗІНЫ Ў ЖНІЎНІ

1 субота — 21—23
3 панядзелак — 8—10
5 серада — 17—19
7 пятніца — 18—20
13 чацвер — 20—22
17 панядзелак — 16—18
21 пятніца — 18—20
31 панядзелак — 6—8

Паводле даных д. м. н. В. ХАСНУЛІНА.

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 31 ЛІПЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 57000 | 58000 | 31700 | 32700 | 8700 | 9200 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 57500 | 58500 | 32450 | 33000 | 9100 | 9300 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 57000 | 58500 | 32100 | 33000 | 9000 | 9300 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 42000. 00 | | 23583.58 | | 6680.00 | | Курс на 1.08.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6,2410 | | 3,5056 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс *(міжбанкаўскі рынак)* | 73500 | 74500 | 41455 | 42026 | 11705 | 11868 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс *(прыблізна)* | 66500 | 67000 | 37200 | 37700 | 10300 | 10800 | |

## ПРАЦЯГВАЕЦЦА АПЕРАЦЫЯ ПА ЗАТРЫМАННЮ ЗНЯВОЛЕНЫХ, ЯКІЯ ЎЦЯКЛІ СА СЛЕДЧАГА ІЗАЛЯТАРА

**На Чукотцы працягваецца аперацыя па затрыманню зняволеных, якія ўцяклі ў пятніцу раніцай са следчага ізалятара ў пасёлку Мыс Шміта.**

Да 14 гадзін маскоўскага часу, паводле слоў кіраўніка пасялковай адміністрацыі Уладзіміра Яршова, у аперацыі прымалі ўдзел ужо тры верталёты і тры групы захопу.

Раней У. Яршоў паведаміў, што з 10 уцекачоў 4 былі абясшкоджаны. Ён таксама заявіў, што пакуль не мае дакладных даных аб наяўнасці страт сярод удзельнікаў аперацыі.

Сярод уцёкшых са следчага ізалятара было шасцёра ваеннаслужачых тэрміновай службы Міністэрства абароны РФ, арыштаваных за ўчыненне забойства і крадзяжу зброі, а таксама чацвёра мясцовых жыхароў, якія ўтрымліваліся пад вартай за ўчыненне згвалтавання і крадзяжоў.

Злачынцы забілі памочніка дзяжурнага РАУС і выкралі са зброевага пакоя вялікую колькасць зброі: 23 аўтаматы, ручны кулямёт, 32 пісталеты Макарава, боепрыпасы да іх, пяць адзінак гладкаствольнай зброі, дзесяць бронекамізэлек. Пасля гэтага яны, захапіўшы на тэрыторыі бліжэйшай воінскай часці дзве аўтамашыны «Урал» і лёгкабраніраваны цягач, накіраваліся ў пасёлак Рыркайпій, дзе ўзламалі дзверы магазіна і выкралі там спіртныя напіткі і прадукты харчавання.

У раёне пасёлка Ленінградскі злачынцы былі заблакіраваны групай праследавання, у састаў якой уваходзілі супрацоўнікі міліцыі, ваеннаслужачыя Мінабароны, ФСБ і ФПС.

**ІНТЭРФАКС.**

УСМІХНЕМСЯ!



Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

### Афарызм ад Купрына

Мужчына ў шлюбе падобны на муху, якая села на ліпкую паперу, — і соладка, і сумна, і палятаць нельга.

* * *

*— Гэта вы назвалі мяне аслом?*
*— Я.*
*— Спадзяюся, вы сказалі гэта жартам?*
*— Не, на поўным сур'ёзе.*
*— Ну, тады ваша шчасце, бо я не выношу жартаў.*




Фота Ілы ВАКУЛІЧА.

### ТОЛЬКІ ФАКТ

• За мінулы тыдзень у краіне зарэгістраваны 273 пажары, у выніку якіх загінула 3 чалавекі. За гарачы тыдзень агонь знішчыў і пашкодзіў 179 пабудоў, 15 адзінак тэхнікі, 190 тон кармоў.

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

# "МЫ ПАВІННЫ ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ХАРЧОВУЮ БЯСПЕКУ КРАІНЫ"

**АКТУАЛЬНЫЯ ПЫТАННІ, ШТО ДАТЫЧАЦЬ УБОРКІ ЗБОЖЖАВЫХ І ЗЕРНЕБАБОВЫХ КУЛЬТУР, АБМЯРКОЎВАЛІСЯ 31 ЛІПЕНЯ НА СЕЛЕКТАРНАЙ НАРАДЗЕ, ЯКУЮ ПРАВЁЎ ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА.**





Адкрываючы нараду, кіраўнік дзяржавы адзначыў, што неабходнасць у сур'ёзнай і грунтоўнай размове выклікана няпростай сітуацыяй, якая склалася з уборкай ураджаю ў цэлым па рэспубліцы з-за неспрыяльных умоў надвор'я. Аляксандр Лукашэнка заявіў, што на перыяд жніва ў аграрным сектары і звязаных з ім галінах эканомікі «ўводзіцца асобае становішча». Сёння ўсе намаганні павінны быць накіраваны на тое, каб выйграць бітву за ўраджай, падкрэсліў ён.

Прэзідэнт адзначыў, што ў большасці рэгіёнаў уборка ўраджаю ідзе марудна. На агульным фоне выдзяляюцца Брэсцкая і Гродзенская вобласці, дзе збожжавыя зжаты ўжо на чвэрці тэрыторый.

На думку Аляксандра Лукашэнкі, цяпер асноўная ўвага павінна быць удзелена працаўнікам палёў. Іх неабходна своечасова накарміць і даставіць на работу, даць ім добра зарабіць. Прэзідэнт звярнуў увагу кіраўнікоў усіх рангаў на недапушчальнасць затрымак выдачы зарплаты работнікам аграрнага сектара. Ён паабяцаў, што ў хуткім часе запазычанасці будуць пагашаны, у тым ліку за кошт прадукцыі новага ўраджаю. Акрамя таго, кіраўнік дзяржавы падпісаў указ аб змяншэнні падаходнага падатку на сумы, заробленыя работнікамі сельгаспрадпрыемстваў у час уборачнай.

Паводле інфармацыі віцэ-прэм'ера Уладзіміра Гаркуна, сёлета пад збожжавыя і зернебабовыя культуры адведзена 2,6 мільёна гектараў. Набыта 450 новых камбайнаў. Большасць з іх накіравана ў механізаваныя атрады, якіх у рэспубліцы 88. Дзяржава выдзеліла 67 працэнтаў авансу за збожжа. Аплата за прададзеную прадукцыю будзе ажыццяўляцца на працягу пяці банкаўскіх дзён.

Паводле слоў Уладзіміра Гаркуна, сур'ёзную заклапочанасць выклікае адставанне Мінскай вобласці, дзе ўраджай убраны ўсяго на пяці працэнтах плошчаў, а ў 41 гаспадарцы жніво наогул не пачыналі. Шмат прэтэнзій па арганізацыі ўборачнай было прад'яўлена да кіраўнікоў Ганцавіцкага, Бешанковіцкага, Смаргонскага, Крупскага і іншых раёнаў рэспублікі.На думку віцэ-прэм'ера, тэмпы ўборкі неабходна значна павялічыць, кожныя суткі ахопліваючы да пяці працэнтаў плошчаў, як гэта было ў лепшыя дні мінулага года. Прамаруджанне можа прывесці да вялікіх страт. Разам з тым Уладзімір Гаркун запатрабаваў звярнуць пільную ўвагу на якасныя паказчыкі. Напрыклад, толькі адзін страчаны цэнтнер з гектара прывядзе ў цэлым па рэспубліцы да нядоімкі чвэрці мільёна тон збожжа. Віцэ-прэм'ер паведаміў, што сярэдняя ўраджайнасць па краіне на сённяшні дзень — 26 цэнтнераў з гектара. Найбольшая — 33 цэнтнеры з гектара — у Гродзенскай вобласці.

Паліва для паспяховага правядзення ўборачнай кампаніі, лічыць прэзідэнт канцэрна «Белнафтахім» Іван Бамбіза, дастаткова. На ведамасных базах на сённяшні дзень назапашана 114 тысяч тон бензіну, 350 тысяч тон дызельнага паліва, 14 тысяч тон масла і 75 тысяч тон пячнога паліва. Кожны дзень на заводах выпрацоўваецца больш за 4 тысячы тон саляркі.

Паводле слоў Івана Бамбізы, бензін і салярка гаспадаркам рэспублікі выдзяляюцца пастаянна. Канцэрн «Белнафтахім» пайшоў насустрач вытворцам сельгаспрадукцыі, рэалізаваўшы 25 тысяч тон дызельнага паліва па фіксаваных цэнах. Акрамя таго, у жніўні калгасы і саўгасы атрымаюць па фіксаваных цэнах яшчэ 10 тысяч тон бензіну і 20 тысяч тон саляркі.

У Брэсцкай вобласці на сённяшні дзень жніво праведзена на 27 працэнтах плошчаў. Дзяржаве прададзена 31 тысяча тон збожжа, што складае 10 працэнтаў ад планавага задання. Паводле слоў старшыні Брэсцкага аблвыканкама УКладзіміра Заламая, у рэгіёне дзейнічаюць сем перасовачных мехатрадаў.

Яго калега старшыня Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко лічыць, што Гродзеншчына ў стане сабраць адну тону збожжа на кожнага жыхара рэгіёна. На сённяшні дзень у гэтай вобласці збожжавыя ўбраны на 22 працэнтах плошчаў. Але ў хлебаробаў узнікае шмат прэтэнзій да якасці сельскагаспадарчай тэхнікі, якую выпускае ВА «Гомсельмаш». На 104 машыны, што паступілі ў гаспадаркі рэгіёна, зафіксавана 114 няспраўнасцяў. Слабае месца — гэта ў асноўным гідраўліка і дызелі. Акрамя таго, калгасы і саўгасы недаатрымалі сёлета 15 трактароў «МТЗ-1522» і 15 камбайнаў «Дон-1500», якія пастаўляюцца па расійскаму тэхнічнаму крэдыту.

Падводзячы вынікі нарады, прэзідэнт Беларусі адзначыў, што большасць пытанняў, якія датычаць уборкі збожжавых культур, неабходна вырашаць на месцах. Трэба зрабіць усё, каб пазбегнуць страт ураджаю, ад якога ў многім залежыць «харчовая бяспека краіны», падкрэсліў ён.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што планавыя заданні па дзяржаўных закупках збожжа застаюцца нязменнымі. Прэзідэнт заклікаў кіраўнікоў усіх рангаў, простых працаўнікоў напружана папрацаваць у жнівеньскія дні.

Канчатковыя вынікі жніва-98 будуць падведзены 1 верасня.

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

*2 жніўня — Дзень чыгуначніка*

## ЧАС ТАКІ, ШТО І Ў СВЯТЫ МЫ ГАВОРЫМ ПРА СПРАВЫ

**Па даўняй традыцыі ў першую нядзелю жніўня працаўнікі стальных магістраляў адзначаюць сваё прафесійнае свята.**

Аб тым, наколькі вялікая сёння роля Беларускай чыгункі ў маштабах эканомікі рэспублікі, сведчыць такі факт. Гэта галіна выконвае 76,8 працэнта ад агульнага аб'ёму перавозак грузаў усімі відамі транспарту. Што датычыць перавозкі пасажыраў, то і тут на долю чыгуначнікаў прыпадае 59,1 працэнта.

Як падкрэсліў у гутарцы з журналістамі начальнік Беларускай чыгункі Яўген Валадзько, шматтысячны калектыў галіны будуе сваю дзейнасць зыходзячы менавіта з разумення той вялікай адказнасці, якая на яго ўскладзена. І працуе ён, як заўсёды, упэўнена, надзейна і спакойна.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## ПРАФСАЮЗЫ І ЎРАД ПАСПРАБУЮЦЬ ДАМОВІЦЦА Ў ЖНІЎНІ

**Прэзідыум Федэрацыі прафсаюзаў прыняў рашэнне звярнуцца да прафкамаў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў з прапановай на працягу 10 дзён выказаць сваё стаўленне да запланаванай на кастрычнік агульнарэспубліканскай акцыі пратэсту супраць падзення ўзроўню жыцця.**

Як паведаміў у гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык, у тым, што кастрычніцкія акцыі адбудуцца, сумнявацца не выпадае. Аднак маштабы гэтых выступленняў, а таксама канкрэтныя патрабаванні прафсаюзаў будуць залежаць як ад думкі працоўных калектываў, так і ад далейшых дзеянняў урада. Дарэчы, паводле папярэдніх звестак, сустрэча прадстаўнікоў прафсаюзаў і ўрада павінна прайсці на пачатку жніўня. На ёй, па словах У. Ганчарыка, у першую чаргу будуць абмеркаваны праблемы выканання генеральнага пагаднення, а таксама меры па ліквідацыі запазычанасці па заробках.

**Сяргей ГРЫБ.**

# УСМЕШКІ АЛЕГА АЛОЎНІКАВА

***«Нагоды для гумару ў жыцці не так часта і здараюцца, але без гумару не адолець надзённых цяжкасцяў», — лічыць вядомы віяланчэліст, дырыжор і кампазітар, заслужаны артыст Беларусі Алег Алоўнікаў.***

***Спецыяльна для «Звязды» — расказаныя ім гумарыстычныя гісторыі.***



### АДПАЧЫНАК У ЧУЖОЙ КВАТЭРЫ

...Гадоў дзесяць таму я пераехаў у «новую» кватэру, адчыніў вокны і, дыхаючы вясновым паветрам і водарам бэзу, вырашыў распрануцца да трусоў і крыху пайграць на віяланчэлі, — расказвае Алег. — Раптоўна ў дзверы пазванілі... Я адчыніў і ўбачыў сур'ёзны твар незнаёмага мужчыны, мяркуючы па ўсім, гэта быў сусед.

— Перашкаджае мая музыка? — як мага ветлівей запытаў у яго.

— Не тое слова — «перашкаджае»!!! — не хаваў ён раздражнёнасці.

— Калі хочаш мне па твару заехаць — заходзь... Але спачатку падрабязна раскажы, як табе перашкаджае.

— Ведаеш, музыка, калі ты пілііш сваю — як яе там, віяланчэль, гэта я яшчэ магу сцярпець. Але калі ўжо шчыпаць пачынаеш (такі прыём называецца «піццыката». — *Заўв. аўт.*), я ніяк не магу засяродзіць увагу. Не паважаеш мяне як суседа, дык пашкадуй як кандыдата тэхнічных навук!

— А ці не жадаеш паспрабаваць сябе ў якасці... віяланчэліста? — прапанаваў я. — Табе нават смычок не спатрэбіцца — сядай на табурэтку, але асцярожна, бо ў яе сядзенне ад ножак адарвалася (іншай мэблі, акрамя матраца, наогул няма), стаў інструмент паміж ног і пачынай «шчыпаць» струны. А мне тым часам дай ключы ад тваёй кватэры, я паслухаю адтуль, на што ты здольны...

На дзіва, кандыдат тэхнавук згадзіўся. Я ўпэўнена адчыніў дзверы паверхам ніжэй, і пакуль на працягу амаль дваццаці хвілін адпачываў на яго раскошным гарнітуры ад сваёй ламачыны-табурэткі, ён добрасумленна, ад усёй душы шчыпаў інструмент, і мяне гэта не раздражняла...

Трэба сказаць, што мы з ім былі добрымі суседзямі не адзін год, пасябравалі нават. Але... усё ж такі я «выжыў» яго з гэтага дома. Мабыць, апошняя непрыемнасць у яго існаванні побач са мной — наступная:

— Алег, няўжо ў цябе нарэшце з'явілася жанчына? — спытаў у мяне кандыдат тэхнавук, сустрэўшы аднойчы ў двары.

— Як ты мог дадумацца? — пацікавіўся я.

— Дык яна ж у цябе кожную раніцу прыкра-высокім голасам спявае!

Сусед, напэўна ж, не паверыў мне, што гэта менавіта я пачаў спяваць «жаночым» галаском, а «прымусіў» мяне да гэтага заказ экс-артыста ансамбля «Песняры» Лявона Барткевіча — я пісаў музыку на словы Янкі Купалы «Не дайце загінуць песняру» і, напэўна ж, спрабаваў уявіць, як песня будзе гучаць у арыгінальным выкананні Лявона... Дарэчы, песня гэта была куплена ў фонд Беларускага радыё, але яе не пускалі ў эфір: ці камусьці прыйшло ў галаву, што артыст «вольнага палёту» Барткевіч кідае выклік «Песнярам», з якімі развітаўся, ці сусед сурочыў песню...

### АГУЛЬНАЯ ПРЫГАЖУНЯ

Трэба заўважыць, што з Алегам Алоўнікавым я гутарыла на яго кухні. Акно было адчынена, і раптам на поручнях суседняга балкончыка мы ўбачылі беласнежную кошку.

— Кіс-кіс, скачы да мяне! — ласкава паклікаў Алег, як быццам тая даўно прызвычаілася да каскадзёрскіх скачкоў.

— Дык яна ваша?

— Мая! А балкон — суседскі.

— Нешта незразумела...

— Я таксама не адразу зразумеў, што да чаго, — прызнаўся віяланчэліст, — бо жывёл у хаце не заводзіў. Але аднойчы, слухаючы музыку, задрамаў, праз некалькі хвілін адкрыў вочы спачатку і не мог зразумець: ці то на самай справе, ці то ў сне ўбачыў белую прыгажуню з пушыстым хвастом... Я іграў для яе на віяланчэлі, а яна цэлыя паўтары гадзіны глядзела мне ў вочы быццам з разуменнем і хадзіла вакол маёй нагі. «Во пашанцавала! — узрадаваўся я. — І адкуль толькі такая добрая прыгажуня ўзялася?» Але раптоўна мае мары перабіў нечаканы званок у дзверы, і сусед нервова запытаўся з парога: «Дачка плача, наша кошачка згубілася. Да вас яна, выпадкова, не заходзіла?»—«Вы беленькую маеце на ўвазе? Заходзіла. Яна і зараз у мяне...» Карацей, прыйшлося мне з ёю развітацца — а каб развеяць сумны настрой, я «назлосць» усім яе гаспадарам вырашыў лічыць кошачку сваёй.

### ЧЫМ Я НЕ СЫН?..

Прыемна быць падобным на тых, хто табе падабаецца... Між іншым, мне ўжо не аднаго разу казалі, што я — «копія» Смактуноўскага. А ў час паездкі ў Маскву ў мяне пыталіся: «Ці не сын вы Аркадзя Райкіна?»

Думаю, справа не толькі ў «партрэце» — я не лічу ганебным «упітваць» у сябе лепшыя якасці лепшых людзей. Але далёка не ўсе згаджаюцца прыняць мяне за сваяка...

Гадоў шэсць таму я адпачываў у Нью-Йорку. А яшчэ — у самым простым з пункту гледжання турыста амерыканскім горадзе Філадэльфіі.

Гуляючы па іх «авеню» і «стрыт», я заўважыў, што практычна ў кожным мясцовым перыядычным выданні пішуць пра надта багатага амерыканца Трампа Тауэра — яго партрэт можна сустрэць на супервокладках ледзь не кожнага часопіса: нагодай небывалай папулярнасці з'явілася скасаванне шлюбу з жонкай і захапленне прыгожай манекеншчыцай...

Аднойчы мяне, быццам бы чалавека бывалага, папрасілі стаць гідам адной масквічкі, якая прыехала ў ЗША. Яна адразу пацягнула мяне ў вялікі супермаркет. І, напэўна ж, не магла адарвацца ад вітрын — я ўжо каля сямі пачак цыгарэт скурыў... Раптам гляджу — за некалькі метраў ад мяне, быццам у казцы, той самы легендарны багач. «Кінуся да яго і папрашу: «Усынавіце, калі ласка!!!» — пранеслася ў галаве думка. — Магчыма, і на яго я крыху падобны — чаму б не?..» Але чамусьці не знайшоў у сабе сіл нават языком паварушыць, не тое што крок зрабіць — такое моцнае ўзрушэнне, што не перадаць словамі.

— Дык вас, Алег, і не ўсынавілі?.. Трэба ж было смялейшым быць...

— Перш-наперш, калі ўжо і раскайвацца ў нечым, дык трэба карыць сябе за тое, што англійскай мовы добра не ведаю! Бо сумняваюся, што той багач зразумеў бы маю родную мову... Але калі раптам у адзін цудоўны дзень разжывуся грашыма, не ўсынаўлю таго Трампа да той пары, пакуль ён, задавака, не загаворыць са мной пабеларуску!

### ЛЕПШЫЯ ПАКЛОННІЦЫ — У БІГУДЗЯХ...

...Я з невялікай групай артыстаў і музыкантаў прыехаў праз увесь горад для ўдзелу ў міні-канцэрце ў інтэрнаце Мінскага трактарнага завода. Калегі чакалі на вуліцы, а я пайшоў «на разведку»: дзе там у іх «канцэртная зала» мясцовага значэння? Аднак вахцёр, дама не заклапочаная пад'ёмам культурнага ўзроўню рабочых, даведаўшыся, што я артыст філармоніі, і пра мэту майго візіту ў яе «гаспадарку», нават і не думала прапускаць мяне ў памяшканне, строга сказала: «Ідзі дахаты, «філарман», не тлумі мне галаву!» Ледзь угаварыў яе не праганяць мяне, і ў якасці доказу, што я не прайдзісвет і не злодзей, спасылаўся на канцэртны фрак, беласнежную кашулю з гальштукам-«бабачкай» і на лакіраваныя туфлі. Нарэшце вахцёрка зжалілася і пусціла мяне. Я пайшоў па доўгім калідоры, а з кухні, дзе смажылі сала, валіў такі густы дым, што мае яшчэ нядаўна бліскучыя туфлі ўмомант пакрыліся налётам. Як ўратаваць ад такой напасці віяланчэль (якую на той момант я ўжо трымаў у руках)? Зазірнуў у першы ж пакой — мяне павіталі ўсмешкамі цудоўныя «феі» ў фланелевых халаціках, з бігудзямі на галаве. «Дзяўчаты, ці не возьмеце на захоўванне мой інструмент?»—«Нават і вас возьмем!» — ажывіліся яны. «Можна і мяне, але толькі ўжо пасля канцэрта, — пажартаваў я. — Дык куды віяланчэль паставіць?»—«Кладзіце на свабодны ложак, — прапанавалі мне. — Дарэчы, а што за канцэрт і дзе ён адбудзецца?»—«Мяркуючы па маленькай невыразнай афішы, якую я нейкім цудам заўважыў у вашым курадымным інтэрнаце, — у «ленпакоі»...

Нарэшце пачаўся той самы канцэрт: баяніст расцягваў мяхі, спявачка «калыхала» свае вялікія грудзі... І калі прыйшоў час мне іграць, я ўбачыў у першым жа радзе... ужо знаёмых мне «фей»-дзяўчат, усё ў тых жа кароценькіх халаціках і бігудзях — яны паленаваліся прыбрацца, затое апладзіравалі мацней за іншых...

Аднак здараецца на канцэртах і такое, што слухачы наогул прыходзяць без... адзення. Я маю на ўвазе сваё дзіўнае выступленне ў вёсцы, у драўляным хляве, пераабсталяваным пад клуб. І вось там «армію» слухачоў нечакана папоўніла... самая звычайная карова — напэўна ж, не «пры парадзе» і «марафеце».

— Алег, а села яна ў якім радзе?..

— Рагуля наогул не заходзіла ў памяшканне: «сціпла» ўсунула галаву праз «амбразурку» акна і «сказала»: «Му-у-у!!!». Мне прыйшлося хутка адрэагаваць, рэзка пераскочыць у яе танальнасць — паўтарыць на віяланчэлі «гукі прыроды» і зрабіць выгляд, што кампазітар менавіта так і задумаў...

**Алена КЛІМЕНКА.**

# ДЗЕЦЯМ У ШКОЛУ. ПРАЗ МЕСЯЦ.
## А ІХ БАЦЬКІ КАЖУЦЬ ЁЙ «ПРЫВІТАННЕ» ЎЖО ЗАРАЗ

***Лета — цалкам бесклапотная пара года толькі для дзяцей. Іх жа бацькам нават у гэты, адносна спакойны ад школьных праблем час, даводзіцца загадзя думаць пра чарговы навучальны год. Нягледзячы на тое, што да пачатку заняткаў яшчэ цэлы месяц канікулаў, думкі дарослых усё часцей скіроўваюцца на непазбежную для кожнай сям'і, дзе ёсць дзеці, праблему падрыхтоўкі нашчадкаў да школы. Здаецца, сёлета гэты працэс пачаўся раней, чым звычайна: у аддзелах школьна-пісьмовых тавараў, аддзелах адзення і абутку для дзяцей многіх крамаў ужо назіраюцца невялікія чэргі.***

***Як школьнікі будуць забяспечаны адпаведным асартыментам да новага навучальнага года, што робіць гандаль, каб задаволіць попыт пакупнікоў, якія магчымыя нечаканасці могуць сустрэцца на шляху спажыўцоў і ці ўдасца іх пазбегнуць — аб гэтым карэспандэнту «Звязды» паведамілі спецыялісты Міністэрства гандлю.***

***Начальнік упраўлення арганізацыі спажывецкага рынку тавараў лёгкай прамысловасці Міхаіл СЛІЖОЎ:***

— Сёлета на прылаўкі магазінаў павінна паступіць 32 тысячы касцюмаў для хлопчыкаў вытворчасці Баранавіцкай швейнай фабрыкі. Праўда, нядаўна прадпрыемства заявіла, што аб'ём выпуску гэтай прадукцыі складзе толькі 25 тысяч адзінак. Аднак мы будзем настойваць, каб была выканана першапачатковая лічба выпуску касцюмаў. Вядома, што закупляць адпаведную прадукцыю за межамі краіны складана, таму да выканання гэтага заказу, відаць, будуць падключаны Бабруйская швейная фабрыка «Славянка» і мінскія прадпрыемствы «Прагрэс» і «Камінтэрн».

**— Міхаіл Іванавіч, а як справы з таварамі для дзяўчынак?**

— З Брэсцкай швейнай фабрыкай узгоднены аб'ём паставак сукенак, які складае 35 тысяч адзінак гэтай прадукцыі.

**— Акрамя адзення школьнікам патрэбны абутак...**

— Гэтае пытанне таксама ўзгоднена з прадпрыемствамі. Праўда, пакуль існуюць праблемы з туфлямі для дзяўчынак школьнага ўзросту. Нас падвяла віцебская фабрыка «Чырвоны Кастрычнік», якая фактычна сарвала план выпуску і паставак у гандаль гэтай прадукцыі.

**— Як плануецца выправіць становішча, балазе, час яшчэ ёсць?..**

— Будзем шукаць магчымасці, у прыватнасці, паставак абутку для дзяўчынак з-за межаў краіны, будзем весці далейшыя перамовы з айчыннымі прадпрыемствамі. Усяго нам патрэбна да пачатку новага навучальнага года 39 тысяч пар абутку гэтага віду.

***Начальнік упраўлення арганізацыі спажывецкага рынку тавараў культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння Расціслаў ЛЯТУН:***

— Гандаль заключыў дагаворы з добрушскай фабрыкай «Праца» на пастаўку 88 млн. звычайных сшыткаў і 10 млн. — агульных. Такой іх колькасці павінна хапіць. Пагрозы зрыву гэтых заказаў няма. Заключылі дагаворы таксама на пастаўку альбомаў, вокладак для сшыткаў і падручнікаў, лінеек, ранцаў і г.д.

**— Тут праблем таксама не будзе?**

— Штогод традыцыйна не задавальняецца попыт на айчынныя фарбы, пластылін, якіх Калінкавіцкі завод бытавой хіміі выпускае толькі 60—65 працэнтаў ад неабходнага. Але дарослым і іх дзецям хвалявацца не варта: і пластылін, і фарбы ў продажы будуць, праўда, імпартныя і крыху даражэйшыя за айчынныя. Могуць быць перабоі з альбомамі і чарцёжнай паперай, бо гэтыя тавары вырабляюць з прывазной сыравіны. Плануем зноў жа стабілізаваць сітуацыю пастаўкамі з-за межаў краіны.

**— Рашэннем Міністэрства адукацыі зацверджаны новы ўзор школьнага дзённіка...**

— Так, заказ на яго друкаванне размешчаны на маладзечанскай друкарні «Перамога». Сёлета ў школы краіны прыйдуць 1 млн. 570 тысяч вучняў, з іх 147 тысяч пераступяць парог навучальнай установы ўпершыню. Дык вось патрэбнасць у дзённіках (з улікам старых дзённікаў, якія ёсць на складах і будуць сапраўднымі ў сёлетнім годзе) ужо задаволена на дзве трэці. Будзем вырашаць пытанне аб выкананні астатняй часткі заказу, у тым ліку і шляхам друкавання дзённікаў на іншых прадпрыемствах.

**— Расціслаў Мікалаевіч, кажуць, сёлета можа быць пэўны дэфіцыт школьных ранцаў і сумак...**

— Іх вытворчасцю займаецца мінская «Галантэя», якая вырабляе 9 відаў гэтай прадукцыі. Патрэбы краіны прадпрыемства задавальняе на 80 працэнтаў, таму астатняе зараз завозім з-за мяжы. Няхай бацькі не хвалююцца — дзеці без сумак не застануцца.

**— Як бачна, даволі шмат школьных тавараў даводзіцца набываць за межамі Беларусі...**

— Так, гэта адна з нашых праблем. Канешне, хацелася б, каб было больш айчынных тавараў, якія маюць меншы кошт у параўнанні з імпартнымі аналагамі, а па якасці ніколькі не саступаюць...

**— Расціслаў Мікалаевіч, ужо зараз у многіх крамах ля секцый і аддзелаў школьных тавараў назіраюцца чэргі. Чаму так рана?**

— Нас радуе, што чэргі з'яўляюцца менавіта зараз, а не ў канцы жніўня. І людзі маюць больш часу для пакупак, і мы можам своечасова рэагаваць на попыт. А чаму так рана... Людзі не ўпэўнены ў заўтрашніх цэнах, таму імкнуцца набываць усё патрэбнае ўжо зараз.

***Як стала вядома рэдакцыі, з 24 па 31 жніўня па ўсёй краіне пройдуць рознічныя кірмашы «Прывітанне, школа!», на якіх гандаль прапануе спажыўцам школьна-пісьмовыя і канцылярскія тавары, касцюмы і камплекты, сарафаны і блузкі, кашулі, штаны, панчошна-шкарпэткавыя вырабы і абутак для дзяцей. Міністэрства гандлю сцвярджае, што наведванне кірмашоў дазволіць зэканоміць час пры набыцці ўсяго неабходнага да навучальнага года. Безумоўна, яны вартыя таго, каб іх наведаць, але, улічваючы познія тэрміны — літаральна напярэдадні першага верасня — і пэўныя праблемы ў забеспячэнні асобнымі таварамі, прынамсі, на сённяшні дзень, мы б раілі зрабіць некалькі паходаў у крамы ўжо зараз, каб не давялося вырашаць увесь цяжар праблемы па падрыхтоўцы сыноў і дачок да школы ў апошні час. У рэшце рэшт, гэта ж і ваша свята таксама!***

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



**На здымку: гвардыі прапаршчык Валянціна Гірсёнак — начальнік станцыі ФПС — фельд'егерска-паштовай сувязі. Служыць яна ўжо 15 гадоў. Зрабіла 54 скачкі з парашутам. Закончыла тэхнікум сувязі.**

**Фота Авеніра КАЛОДКІ.**

## ДЗЕНЬ ДЭСАНТНІКА СВЯТКУЮЦЬ МАБІЛЬНЫЯ СІЛЫ

Заўтра ў воінаў-дэсантнікаў — свята. Традыцыйнае, прафесійнае. Пачатак яго — у далёкім 1930 годзе. Менавіта тады, недзе пад Варонежам, 2 жніўня з самалёта «Фарман-галіяф» быў скінуты дэсант колькасцю 6 чалавек на чале з камбрыгам Леанідам Мінавым. Удзельнік грамадзянскай вайны чырвоны камандзір Мінаў паказаў прыклад, як трэба скакаць з парашутам.

З тае пары і свята. Для ўсіх былых савецкіх дэсантнікаў. Для дэсантнікаў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь таксама.

Зараз паветрана-дэсантныя злучэнні ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь называюцца крыху іначай — мабільныя сілы і воінскія падраздзяленні спецыяльнага прызначэння. Але традыцыі і для беларускіх воінскіх калектываў засталіся ранейшыя, пра што нагадаў у сваім загадзе з нагоды свята і міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў. «У гэты дзень народ Беларусі аддае даніну пашаны... воінам мабільных сіл і ветэранам паветрана-дэсантных войскаў за іх стойкасць, мужнасць і адвагу, праяўленыя як у гады Вялікай Айчыннай, так і ў мірны час...»

Магчыма, у іншых цяпер ужо краінах успомняць беларусаў воінаў-дэсантнікаў падпалкоўніка Фёдара Смеяновіча (камандаваў адным са злучэнняў ПДВ у Вялікую Айчынную, загінуў на Дняпры, быў прадстаўлены да звання Героя Савецкага Саюза), блужскага падлетка старшага сяржанта Героя Савецкага Саюза Мікалая Чэпіка... Ды і славуты камандуючы паветрана-дэсантнымі войскамі Узброеных Сіл СССР, легендарны генерал арміі Герой Савецкага Саюза Маргелаў — таксама з беларусаў. Успомнім жа і мы іх. Хаця б у свята.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# «ВЫЯЗНАЯ ПРЫЁМНАЯ» Ў РАСОНАХ

## ПЫТАННІ І АДКАЗЫ

**На сустрэчы падчас «выязной прыёмнай», якая была наладжана на Расоншчыне газетай «Звязда» сумесна з Федэрацыяй прафсаюзаў, міністэрствамі сацыяльнай абароны і аховы здароўя, прыйшлі каля сотні жыхароў раёна. Пытанняў было шмат, прычым самых розных. Некаторыя з іх мы палічылі вартымі газетнай старонкі.**

**— Чаму ў Расонах няма кантролю за будаўніцтвам гаражоў? Прынамсі там, дзе я жыву (вул. Савецкая, 24/1).**

*В. І. Багданаў, г. Расоны.*

— Заява Багданава была разгледжана на камісіі райвыканкама. Камісія, улічваючы тое, што дамы пабудаваны ў 1973 годзе і іх узвядзенне вялося з дазволу адміністрацыі ПМК-41, а таксама той факт, што іх размяшчэнне не супярэчыць прынятым нормам, прыйшла да высновы аб немэтазгоднасці зносу гаражоў.

Зараз аддзелам архітэктуры, горадабудаўніцтва і тэрытарыяльнага планавання райвыканкама афармляюцца дакументы аб прававой рэгістрацыі гаражоў. Адначасова раённым цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі папярэджаны жыхары аб забароне мыцця транспартных сродкаў каля дамоў.

**— Чаму не выдзяляюцца пуцёўкі ў дзіцячыя аздараўленчыя лагеры?**

*Жыхары в. Сяляўшчына Расонскага раёна.*

На пытанне адказвае старшыня раённага камітэта прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу А. П. Ясінская.

— Пытаннямі аздараўлення насельніцтва Расонскага раёна, у тым ліку і дзяцей, зараз займаецца Наваполацкі аддзел па аздараўленню. У кожным працоўным калектыве раёна створаны адпаведныя камісіі. Для атрымання пуцёўкі неабходна падаць заяўку ў памянёную камісію.

**—Ці праўда, што плануецца ўвесці абаненцкія кніжкі для аплаты за электраэнергію?**

*Жыхары в. Забор'е.*

— Сапраўды, гэта павінна адбыцца, прычым ужо ў бліжэйшы час. Згодна з графікам энерганагляду выдача абаненцкіх кніжак па Заборскаму сельсавету плануецца на жнівень гэтага года.

**— Чаму хлеб у вясковую краму завозяць чатыры разы на тыдзень, а іншыя прадукты харчавання — толькі раз на тыдзень?**

*Н. І. Студзянкова, в. Забор'е.*

— Як паведаміла нам старшыня праўлення райспажыўсаюза Л. А. Печкурова, у сувязі з аддаленасцю крамы ў в. Забор'е завоз прадуктаў харчавання робіцца сюды сапраўды адзін раз на тыдзень, і толькі пры неабходнасці гэты графік можа змяняцца. Аднак, улічваючы тую акалічнасць, што ў сувязі з прыездам дачнікаў і дзяцей на адпачынак колькасць насельніцтва ў Заборскім сельсавеце павялічылася і, адпаведна, павялічыўся попыт на тавары, з 20 ліпеня гэтага года завоз прадуктаў у краму ажыццяўляецца ўжо два разы на тыдзень — у аўторак і чацвер.

**— Няўжо немагчыма ўстанавіць жорсткі графік завозу ў вёску газавых балонаў? Атрымліваецца, што людзі, замест таго каб працаваць, павінны сядзець дома і чакаць, калі прывязуць газ...**

*Арцюшкевіч, в. Забор'е.*

— Паводле інфармацыі з РПУ «Расонырайгаз», дастаўка газу ў балонах насельніцтву раёна ажыццяўляецца два разы на тыдзень у кожны населены пункт. Але паколькі фарміраванне ведамасцяў па дастаўцы газу робіцца на працягу 3-4 дзён і загадзя невядома, колькі і з якой вёскі паступіць заявак, то паведаміць канкрэтны час завозу практычна немагчыма. Тым не менш, па нашых звестках, днямі Расонскі райвыканкам прыняў рашэнне звярнуцца ў абласное прадпрыемства «Віцебскаблгаз» з просьбай даць тлумачэнне па гэтаму пытанню.

**— Чаму нельга наладзіць рух аўтобуса па маршруту Расоны — Забор'е ў абедзенны час?**

*В. А. Тупікова, в. Забор'е.*

Гэта пытанне разглядалася неаднаразова. Але ў сувязі са складаным фінансавым становішчам аўтапрадпрыемства №10 была знойдзена магчымасць наладзіць рух аўтобуса па маршруту Расоны—Забор'е ў абедзенны час толькі адзін раз на тыдзень.

**— Праз некалькі дзён пасля выхаду на пенсію з Заборскага лясніцтва муж раптоўна памёр. Па калектыўнаму дагавору пры выхадзе на пенсію кожны работнік лясніцтва павінен атрымліваць пэўную суму грошай. Чаму мой муж застаўся без дапамогі?**

*А. А. Мінькова, в. Забор'е.*

— Як высветлілася, Камісія па працоўных спрэчках Расонскага лясгаса на сваім пасяджэнні ў чэрвені 1997 года разглядала гэта пытанне і вынесла наступнае рашэнне: у сувязі з тым, што мужам Міньковай А. А. пры выхадзе на пенсію не была пададзена адпаведная заява на звальненне, то на выплату аднаразовай дапамогі ён не мае права. Аднак ужо пасля правядзення «выязной прыёмнай» адбылося паўторнае пасяджэнне камісіі, на якім папярэдняе рашэнне было адменена. Такім чынам, выплата аднаразовай дапамогі сп. Міньковай павінна быць зроблена ў бліжэйшыя дні.

**— Апошнія гады перад выхадам на пенсію працаваў у лясніцтве аднак дагэтуль усё жыццё з'яўляюся членам саўгаса. Чаму зараз мне не прадастаўляюць тэхнікі і іншых паслуг на льготных умовах, як работнікам саўгаса? Сітуацыя дзіўная яшчэ і таму, што ў саўгасе працавала і менавіта адтуль пайшла на пенсію мая жонка.**

*В. Д. Грыбоўскі, в. Забор'е.*

— Паводле прынятага на агульным сходзе Калектыўнага дагавора мясцовага саўгаса імя Азіна, апрацоўка прысядзібных гаспадарак на льготных умовах прадугледжана толькі непасрэдна для работнікаў саўгаса. Таму, як запэўніў дырэктар саўгаса імя Азіна С. Ф. Траскоў, ільготны тарыф будзе прыменены толькі тады, калі заяву на паслугі падасць не сам Валянцін Дзмітрыевіч Грыбоўскі, а яго жонка.

**Падрыхтавалі да друку Сяргей ГРЫБ, Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ГЕНІІ І ЖАНЧЫНЫ

Жонка **Эўрыпіда** здрадзіла яму з рабом. Ён развёўся і ажаніўся другі раз, але хутка жонка збегла. Эўрыпід узненавідзеў жанчын і ў кожным творы дазваляў сабе падпускаць шпількі і напады ў адрас «цудоўнага полу». Згодна з паданнем, жанчыны нават напалі на Эўрыпіда і хацелі яго забіць. І ён прысягнуў, што больш ніколі не скажа пра іх нічога дрэннага.

Жонка **Тыцыяна** штодня патрабавала ад яго справаздачы аб расходах. Мастак баяўся жонкі, калі траціў больш, чым было дазволена, нібы дзіця, прыдумваў адгаворкі і выкручваўся.

**Джанатан Свіфт** так баяўся шлюбу, што ажаніўся толькі ў 49 гадоў, пасля рамана, які працягваўся 17 гадоў.

**Мікеланджэла** ніколі не быў жанаты -- баяўся, што яго сямейнае жыццё адцягне яго ўвагу ад мастацтва.

**Бетховен і Брамс** былі перакананымі халасцякамі.

**Напалеон** заўсёды зняважліва адзываўся пра жанчын.

Нямецкія драматургі **Лесінг, Жан-Жак Русо і Імануіл Кант** не любілі вучоных жанчын.

**Байран** лічыў, што жанчына не мае ніякага права сядзець за адным сталом з мужчынам і казаў: «Дайце ёй люстэрка і ласункаў, і яна будзе шчаслівая».

**По матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

### Віншаванні

Дарагая мамачка **Святлана Аляксандраўна КУРКАЧ,** уся наша вялікая сям'я віншуе цябе з юбілеем. Будзь заўсёды прыгожай і шчаслівай, як сёння. Здароўя табе, любая, і даўгалецця.

**Любячыя цябе муж, дзеці, унукі.**

**Тамара Станіславаўна ПРЫШЧЭП!** З днём нараджэння. Жадаем радасці, шчасця, любові і ўдачы.

**Сябры з Рагачоўскага раёна.**

**ПРАДАЮ ПЧАЛАСЕМ'І, ПЧОЛАПАКЕТЫ.**
***ТЭЛ. (8-217) 4-66-65.***



## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.21 | 21.09 | 15.48 |
| Віцебск – | 5.06 | 21.05 | 15.59 |
| Магілёў – | 5.11 | 20.58 | 15.47 |
| Гомель – | 5.16 | 20.47 | 15.31 |
| Гродна – | 5.39 | 21.21 | 15.42 |
| Брэст – | 5.45 | 21.17 | 15.32 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 31 ліпеня.**
**З 14.23 — 10 месяцавыя суткі.**
**Месяц у сузор'і Скарпіёна.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Раман, Серефім, Сцяпан**
**К. Юстыны, Альфонса, Пятра**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер пераменных напрамкаў, 3—8 м/сек. Тэмпература паветра ў Мінску, Гродне, Віцебску — 23—25, Магілёве — 24—26, Брэсце, Гомелі — 25—27 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 2-га — у асобных раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы; 3-га — пераважна без ападкаў. Вецер усходні з пераходам на паўднёвы, 4—9 м/сек., пры навальніцы парывы да 14 м/сек. Тэмпература ўначы — 16—21, удзень — 26—31; 2-га па поўначы ўначы 12—17, удзень — 22—27 градусаў вышэй нуля.

## Прызнаны вязнем. Праз шмат гадоў...

***У жніўні 1943 года я быў угнаны ў Германію на прымусовыя работы. Але 18 гадоў мне споўнілася толькі 7 лістапада 1943 года, дык чаму ж лічыцца, што я быў угнаны дарослым? Два з паловай месяцы я быў у Германіі непаўналетнім, але льготамі ніякімі не карыстаюся. І яшчэ. З мая 1948 года да верасня 1970 года я служыў у органах МУС Харкаўскага аблвыканкама, пайшоў на пенсію за выслугу гадоў. Ці маю я ў сувязі з гэтым якія-небудзь льготы?***

**Мікалай МАКАРЭВІЧ, п/а Замкі Крупскага раёна.**

На запыт чытача мы атрымалі афіцыйны адказ з аддзела сацыяльнай абароны Крупскага райвыканкама. «Паведамляем, што М. С. Макарэвіч з'яўляецца непаўналетнім вязнем месцаў прымусовага ўтрымання, арганізаваных фашысцкай Германіяй і яе саюзнікамі ў перыяд другой сусветнай вайны, у пацвярджэнне чаго яму выдадзена пасведчанне і патлумачаны яго правы па льготах. Праца ў органах МУС права на льготы не дае».

Мы шчыра рады за нашага чытача: дзякуючы газеце ён атрымаў тое, што яму належыць па праву. Крыху, праўда, здзіўляе, чаму ён столькі гадоў маўчаў і чаму найперш звярнуўся ў газету. Мы патэлефанавалі ў аддзел сацыяльнай абароны Крупскага райвыканкама, і нам патлумачылі, што, сапраўды, пасведчанне было выдадзена хутка пасля яго ліста ў газету. Але гэта зрабілі б яму і раней (і гэтак жа хутка), каб спадар Макарэвіч паспрабаваў звярнуцца ў адпаведныя інстанцыі па месцы жыхарства...

## Гігіеністы да «жалезнай» вады прэтэнзій не маюць?

***Паважаная «Звязда», з нядаўняга часу я пражываю ў п. Дружны Пухавіцкага раёна. З кранаў у нас цячэ брудная вада з чорнымі шматкамі. Чыстай жа вада бывае вельмі рэдка. Бывае нават і такое, што з крана ідзе не вада, а сапраўдная «чорная кава». Мы, канешне, яе адстойваем, выкарыстоўваем фільтры, але іх не хапае надоўга. У сувязі з гэтым хацелася б пачуць на старонках вашай газеты меркаванне спецыялістаў аб бяспечнасці вады, якой карыстаюцца жыхары нашага пасёлка, і ці варта нам чакаць паляпшэння сітуацыі з вадою.***

**І. В. МІЛУН, п. Дружны, Пухавіцкі раён.**

Ліст нашай чытачкі быў дасланы ў Пухавіцкі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, адкуль мы атрымалі наступны адказ:

«Згодна з Законам РБ «Аб санэпіддабрабыце насельніцтва» і ДАСТам 2874-82 «Вада пітная», адказнасць за якасць падаваемай вады і лабараторны кантроль нясе арганізацыя, якая абслугоўвае водаправод і падае ваду насельніцтву. У дадзеным выпадку гэта Свіслацкае вытворчае прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі (СВП ЖКГ). Уласная лабараторыя ў іх, дарэчы, дзейнічае.

Па сутнасці справы, можам паведаміць вам, што нам і раней даводзілася чуць скаргі на якасць вады у пасёлку, але вынікі лабараторных даследаванняў іх не пацвярджаюць. На водазаборы СВП ЖКГ дзейнічае станцыя абезжалезвання вады, аднак па прычыне залішне высокага ўтрымання жалеза ў «сырой» вадзе (праект патрабуе да 4 мг/л, а ў рэальнасці жалеза ўтрымліваецца ў свідравінах ад 4 да 8 мг/л) і значнай перагрузкі станцыі (у 2—2,5 раза) давесці жалеза ў водаправоднай вадзе да мяжы дапушчальнай канцэнтрацыі — 0,3 мг/л — немагчыма.

Цяпер, згодна з данымі лабараторый СВП ЖКГ і райЦГЭ, вада падаецца ў сетку з утрыманнем жалеза ад 0,4 да 0,9 мг/л. І ўсё ж такая канцэнтрацыя жалеза не з'яўляецца небяспечнай для здароўя, а таму не павінна выклікаць у жыхароў скаргаў. Выкіды ж шматкоў іржы могуць быць звязаны з «гідраўлічнымі ўдарамі», калі ў часы пікавых нагрузак рэзка змяняецца ціск у сетках, у сувязі з чым унутры іх зрываюцца шматгадовыя ржавыя адкладанні. Лічым таксама, што сцвярджэнне аб тым, што такая вада цячэ суткамі, несправядліва, бо мы штомесяц робім ў пасёлку Дружны пробы вады і з падобнымі з'явамі не сутыкаліся. Па нашаму меркаванню, у бліжэйшы час палепшыць паказчыкі якасці вады водаправода ў Дружным практычна немагчыма, бо ўся сетка тут ужо «засмечана» адкладаннямі жалеза, якія накапіліся за многа гадоў».

ПІСЬМО З КАМЕНТАРЫЕМ

## ІЛЬГОТЫ НЕ АДМЕНЕНЫ, А ПРЫПЫНЕНЫ

**У рэдакцыю даволі часта прыходзяць лісты ад нашых чытачоў, у якіх закранаецца адно і тое ж балючае для аўтараў пытанне: ільготы непаўналетнім вязням. Састарэлыя людзі скардзяцца на тое, што па месцы жыхарства ім адмаўляюцца іх прадастаўляць.**

Напрыклад, Мікалаю Рыгоравічу Намочанку з вёскі Залье Светлагорскага раёна, былому непаўналетняму вязню канцлагера «Азарычы», як ён піша, у Светлагорскім райвыканкаме адмовілі ў прадастаўленні беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва. Рыгору Іванавічу Лобаву з вёскі Суляцічы Навагрудскага раёна і Мікалаю Канстанцінавічу Ігнатовічу з вёскі Рэм Барысаўскага раёна (абодва — былыя вязні) сказалі, што для іх адменены льготы па аплаце за карыстанне газам. Тыя ж праблемы і ў Міхаіла Антонавіча Шауры з вёскі Рыпяхі Докшыцкага раёна. Чытачы пішуць, што ад мясцовых органаў сацыяльнай абароны тлумачэнняў яны дабіцца не могуць, маўляў, скасавалі льготу і ўсё. У той жа час яны спасылаюцца на «Звязду» ад 7 лютага гэтага года, дзе быў надрукаваны вялікі пералік ільгот непаўналетнім вязням.

Сапраўды, у памянёным нумары нашай газеты была змешчана такая інфармацыя. Гаворка ў ёй ішла аб тых ільготах, што належаць непаўналетнім вязням (такое было пытанне і на яго мы шукалі адказ). Але там ні слова не гаварылася аб тым, што яны прадастаўляюцца зараз пэўным катэгорыям насельніцтва. Гэта яшчэ раз пацвердзілі нам у Міністэрстве сацыяльнай абароны. Але не маюць рацыі і мясцовыя органы ўлады і сацыяльнай абароны, калі ўводзяць у зман састарэлых людзей словамі «льготы адменены». Ільготы непаўналетнім вязням не адменены, а прыпынены Указам Прэзідэнта № 349 ад 1 верасня 1995 года. Адпаведныя тлумачэнні ўжо неаднаразова давалі і Мінсацабароны, і Мінюст, і Мінжылкамгас. Дзіўна, што раённыя чыноўнікі не могуць дакладна данесці гэтую інфармацыю да людзей. Напрыклад, на запыт спадара Лобава мы атрымалі афіцыйны адказ з Мінсацабароны, які яшчэ раз тлумачыць (як, дарэчы, і многім іншым чытачам), што «прыпынена прадастаўленне жыллёва-камунальных паслуг з 50- працэнтнай скідкай непрацуючым адзінокім і адзінока пражываючым ветэранам працы. Гэта датычыцца і былых вязняў, не прызнаных інвалідамі ад агульнага захворвання і іншых прычын, якім гэтыя льготы прадастаўляліся як ветэранам працы». Такім чынам, паведамляецца далей, указаныя льготы ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам прадастаўляюцца толькі былым вязням фашысцкіх канцлагераў, турмаў, а таксама былым непаўналетнім вязням іншых месцаў прымусовага ўтрымання, створаных фашыстамі і іх саюзнікамі ў гады другой сусветнай вайны, якія прызнаныя інвалідамі ад агульнага захворвання, працоўнага калецтва ці іншых прычын (за выключэннем асоб, інваліднасць якіх наступіла ў выніку проціпраўных дзеянняў) і сумесна пражываючым з імі членам іх сем'яў.

Многія з чытачоў пішуць, што льготы па аплаце газу ім скасавалі ў сакавіку сёлетняга года. Як гэта стасуецца з Указам 1995 года? Як патлумачылі ў Міністэрстве сацыяльнай абароны, калі ў арганізацыі, якая адказвае за прадастаўленне такой ільготы, былі сродкі, людзі бесперашкодна ёю карысталіся. Не стала грошай — прыйшлося забыцца і на льготу.

Яшчэ адзін істотны момант, які нярэдка прысутнічае ў падобных пытаннях адносна льготаў. Іх спіс яшчэ не азначае, што яны прадастаўляюцца кожнаму, зыходзячы толькі з фармулёўкі «былы непаўналетні вязень». Напрыклад, у адносінах да спадара Намочанкі, якому, як ён напісаў, адмовілі ў выдзяленні беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва, мы атрымалі адказ з аддзела сацыяльнай абароны Светлагорскага райвыканкама. У ім, у прыватнасці, паведамляецца, што «сям'я пражывае ва ўласным драўляным доме, дом і надворныя пабудовы знаходзяцца ў добрым стане, матэрыяльна-бытавое становішча сям'і здавальняючае...»

У Міністэрстве сацыяльнай абароны заўважылі, што ўжо даўно распрацаваны змяненні і дапаўненні да Закона «Аб ветэранах», дзе захаваны ў цэласці ўсе льготы, якія дзейнічалі раней. Іншая справа, што ён яшчэ не разгледжаны і не зацверджаны вышэйшымі органамі ўлады. Калі гэта будзе і які канчатковы выгляд будзе мець закон, у міністэрстве пакуль казаць не бяруцца.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Браканьераў б`юць па кішэні

***Паважаны «Пытальнік» ! Дапамажы знайсці адказы на пытанні, якія мяне цікавяць. У якой суме пакрываецца ўрон за незаконнае знішчэнне курапаткі, гуся, зайца, лісы, за разбурэнне хатак баброў, нораў барсукоў, андатраў, за разбурэнне птушыных гнёздаў?***

**П.САЛАВЕЙ, п/а Малюшычы Карэлічскага раёна.**

Згодна з Палажэннем аб паляванні і вядзенні паляўнічай гаспадаркі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, што было зацверджана Саветам Міністраў, асобы, вінаватыя ў яго парушэнні, нясуць адміністрацыйную, крымінальную і іншую адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Юрыдычныя і фізічныя асобы, дзеяннямі якіх нанесены ўрон паляўнічай гаспадарцы і дзікім жывёлам, абавязаны яго пакрыць у наступных памерах: за кожную незаконна здабытую ці знішчаную адзінку жывёлы, незалежна ад узросту (акрамя відаў, якія ўнесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь) лася, высакароднага аленя — 80 мінімальных заработных плат, рачнога бабра, рачной выдры — 70, глушца, лебедзя (малога, клікуна) — 35, кабана, еўрапейскай казулі —30, белага бусла, казаркі, фазана і інш. —20, куніцы (лясной, каменнай), норкі(амерыканскай, еўрапейскай), чырвонай лісіцы, янота-паласкуна, янотападобнага сабакі —15, зайца (русака, беляка), ляснога тхара, ласкі, гарнастая, андатры —10 «мінімалак» і г.д.

За кожную незаконна здабытую ці знішчаную жывёліну, занесеную ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, незалежна ад узросту давядзецца заплаціць больш: за белавежскага зубра, бурага мядзведзя — 150 мінімальных заработных плат, за рысь —60 «мінімалак», за барсука — 40, за курапатку, пугача, шэрага жураўля і інш. — 30 і г.д. За разарэнне і разбурэнне жылля бабра — 20 мінімальных заробкаў, жылля барсука, янота-паласкуна і лісіцы —10, андатры — 5, бобровай плаціны — 25 «мінімалак», за разарэнне гнязда птушак (акрамя шэрай вароны і сарокі) — 5, за кожнае ўзятае з гнязда яйка забароненых да здабычы птушак — 5, карысных птушак — 1 «мінімалку».

За кожнае знішчанае абжытае гняздо, жылую нару і іншае жыллё дзікай жывёлы, якая занесена ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, спаганяецца ўрон у трохкратным памеры сумы пакрыцця ўрону за дадзены від жывёлы. Урон, нанесены незаконнай здабычай дзікіх жывёл у запаведніках і нацыянальных парках, пакрываецца ў трохкратным памеры, а ў заказніках і на іншых тэрыторыях, што не з'яўляюцца паляўнічымі ўгоддзямі, — у двухкратным памеры сум пакрыцця ўрону, вызначаных пералічанымі вышэй лічбамі з Палажэння.

## Надбаўку да зарплаты атрымаюць не ўсе бакалаўры

***Мая дачка скончыла ў мінулым годзе Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М. Танка і атрымала ступень бакалаўра. З вашай газеты мы даведаліся, што выпускнікі гэтай навучальнай установы, якія атрымалі ступень бакалаўра ці магістра, згодна з рашэннем урада павінны атрымліваць зарплату на 10 працэнтаў вышэйшую, чым іншыя педагогі. Аднак у маёй дачкі самая звычайная зарплата. У сувязі з гэтым хацелася б даведацца, ці можна атрымаць ёй 10-працэнтную надбаўку за ўвесь мінулы навучальны год і куды для гэтага трэба звяртацца.***

**Аліна ТУРУНТАВА, г.п. Рудзенск.**

Як растлумачылі нам у аддзеле працы і заработнай платы Міністэрства адукацыі РБ, статус вядучай вышэйшай навучальнай установы ў галіне адукацыі быў прысуджаны Беларускаму дзяржаўнаму педагагічнаму універсітэту 1 верасня 1997 года.

А гэта значыць, што на тых з выпускнікоў, якія атрымалі дыплом бакалаўраў ці магістраў да гэтага часу, 10-працэнтная надбаўка да зарплаты не распаўсюджваецца. На жаль, мінулагоднія выпускнікі аказаліся нібыта спецыялістамі «другога гатунку».

Сёлетнім жа выпускнікам пашанцавала больш. У Міністэрстве адукацыі нам паведамілі, што ва ўсе мясцовыя аддзелы адукацыі была накіравана інструкцыя, згодна з якой ім аўтаматычна будзе налічвацца вышэйшая, у параўнанні з іншымі педагогамі, зарплата.

## ІМЁНЫ ГЕРОЯЎ — НАШЧАДКАМ

У ходзе пошукавых работ, якія праводзяцца воінамі спецыяльна створанага ў рэспубліцы асобнага пошукавага батальёна, у Мастоўскім раёне у вёсцы Мілевічы — знойдзены пахаванні ваеннаслужачых.

Семнаццаць салдацкіх медальёнаў знойдзены пры астанках воінаў. Спецыялістам навукова-даследчага інстытута праблем крыміналогіі, крыміналістыкі і судовых экспертаў удалося прачытаць большую частку ўкладышаў, якія ляжалі ў медальёнах. З мэтай выяўлення сваякоў загінуўшых даныя разасланы ў Цэнтральны архіў Міністэства абароны Расійскай Федэрацыі, абласныя ваенныя камісарыяты Расіі, Казахстана, Украіны. Як нам паведамілі ва ўпраўленні па ўвекавечанню памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны Міністэрства абароны Беларусі, ёсць сярод воінаў і наш зямляк. Цяпер вядзецца пошук яго блізкіх.

**Святлана МАКАРАВА.**




Фота Анатоля БАСАВА.

## Разам з цыгарэтным дымам «L&M» — па прасторах Амерыкі

Сусветна вядомая кампанія «Філіп Морыс», адным з накірункаў работы якой з'яўляецца выпуск цыгарэт з фільтрам, у прыватнасці «L&M», у чарговы раз вырашыла пабалаваць беларускіх курцоў, і не толькі бясплатным падарожжам у ЗША, аб чым сведчыць лозунг «L&M: Транс Амерыка-98».

Традыцыйна, ужо трэці раз запар, «Філіп Морыс» прапануе жыхарам Беларусі паўдзельнічаць у акцыі, 2 пераможцы якой ужо восенню гэтага года на працягу 15 дзён перасякуць ЗША з захаду на ўсход. У гэтым ваяжы яны наведаюць дзесяткі амерыканскіх гарадоў і спыняцца ў Сан-Францыска, Лос-Анджэлесе, Новым Арлеане, Мемфісе, Вашынгтоне і Нью-Йорку.

Гэтак жа, як і ў мінулым годзе, для таго, каб атрымаць шанц адправіцца ў цудоўнае падарожжа па вялікай краіне, неабходна запоўніць картку ўдзельніка (карткі распаўсюджваюцца ў месцах продажу цыгарэт «L&M»), выразаць іх, укласці ў яе крышачкі ад любых дзвюх пачак указаных цыгарэт, а затым прынесці іх у адзін з цэнтраў прыёму картак ці адправіць па адрасу: 223000, г. Мінск, вул. Вакзальная, 13, ПОПП L&M Competition не пазней 22 жніўня 1998 года.

Тых, каму фартуна не надта ўсміхнецца, могуць чакаць 5100 «суцяшальных» прызоў, з якіх 100 гадзіннікаў «L&M», 1000 запальнічак «Zippo» і 4000 маек «L&M» Транс Амерыка».

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ

## ВЫПРАЎЛЕННЕ ПАМЫЛКІ Ў МЕТРЫКАХ

***У Фаіны Лявонавай з Ліды ў пасведчанні аб нараджэнні памылкова ўказаны 1944 год. Яна ж нарадзілася ў 1943 годзе. Як можна выправіць памылку, цікавіцца яна.***

Чытачцы трэба звярнуцца ў аддзел ЗАГС па месцы жыхарства з заявай аб унясенні змяненняў у актавы запіс аб нараджэнні. Калі ж у ЗАГСе адмовяць, напісаць заяву ў суд. Трэба толькі ведаць, што суды ўстанаўліваюць няправільнасць актавага запісу пры наяўнасці пісьмовых і іншых доказаў. Пісьмовымі доказамі з'яўляюцца выпіскі з пагаспадарчых кніг сельскіх Саветаў, выпіскі са школьных журналаў, запісы царкоўных кніг і інш.

Дзяржпошліна пры звароце ў суд складае 29 працэнтаў мінімальнай заработнай платы.

***Лідзія Сыраегіна не працуе больш за 6 месяцаў. Згубіла працоўную кніжку. Куды звярнуцца, пытаецца чытачка.***

Пастановай Мінпрацы РБ ад 9.03.1998 г. № 30 зацверджана Інструкцыя аб парадку вядзення працоўных кніжак работнікаў.

Інструкцыя прадугледжвае, што ў выпадку страты працоўнай кніжкі работнік мае права звярнуцца да наймальніка па апошнім месцы працы на працягу года з дня яго звальнення. Не пазней як праз 15 дзён з дня звароту наймальнік выдае работніку іншую працоўную кніжку з надпісам «Дублікат».

Калі ж працоўная кніжка страчана пасля 1 года з дня звальнення, наймальнік выдае даведку аб перыядзе работы ў яго работніка, і на падставе гэтай даведкі па новым месцы работы будзе заведзена іншая працоўная кніжка, але зноў жа з надпісам «Дублікат».

Бываюць выпадкі, калі работнік вымушаны звярнуцца па апошнім месцы работы, а дзейнасць наймальніка спынена. Тады яму трэба звярнуцца па месцы захоўвання здадзеных дакументаў строгай справаздачнасці. Яны могуць знаходзіцца ва ўласніка, правапераемніка ліквідаванага наймальніка, а таксама ў мясцовым выканкаме ці архіве.

***Чумічова Вольга паведамляе, што пры прыёме яе на работу быў устаноўлены чатырохмесячны выпрабавальны тэрмін. Адміністрацыя ведала, што яна цяжарная. Ці законныя дзеянні адміністрацыі?***

Выпрабавальны тэрмін для работніка ўстанаўліваецца не заўсёды. Згодна арт. 21 КЗаП Рэспублікі Беларусь выпрабаванне не ўстанаўліваецца пры прыёме на работу асоб, якія не дасягнулі 18 гадоў, маладых рабочых пасля заканчэння прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, маладых спецыялістаў пасля заканчэння вышэйшай і сярэдняй навучальнай установы, інвалідаў. Выпрабаванне таксама не ўстанаўліваецца пры прыёме на работу ў іншую мясцовасць, пры пераводзе на работу да іншага наймальніка. У гэтым артыкуле ёсць спасылка і на іншыя выпадкі, прадугледжаныя заканадаўствам. Аднак абмежаванняў для ўстанаўлення выпрабавальнага тэрміну для цяжарных жанчын заканадаўствам не прадугледжана. Таму дзеянні адміністрацыі законныя.

**Таццяна МАТУСЕВІЧ, адвакат.**

«СЛАВЯНСКІ БАЗАР У ВІЦЕБСКУ» спакойна можна назваць «саюзным», ці прасцей — «зорным базарам». Бо які б ні рабілі ўпор на нацыянальныя дні ці на пошукі маладых талентаў, асноўнае, чаго чакае публіка, — гэта знакамітасці. Жадаеце — атрымлівайце.

Сёлета «зорнае» свята было асабліва насычаным. Настолькі насычаным, што часам здавалася, у вачах ўспыхне пажар. Тут вам промні з планет па імені «Эстрада», «Мода», «Кіно», «Балет». Толькі паспявайце іх ухапіць. Толькі паспрабуйце іх не заўважыць...



## Песняры яшчэ запяюць



З усіх беларускіх артыстаў больш за ўсё пашчасціла «Песнярам». Яны найчасцей з'яўляліся ў трансляцыях канцэртаў фестывалю, якія паказвала Расійскае тэлебачанне. І быццам бы Ігар Крутой будзе не супраць іх удзелу у выніковай праграме «Песня года». Канешне, «Песняры» — гучная назва. І перажываюць новы віток музычнай кар'еры.

А вось іншым нашым калектывам і спевакам пачаць кар'еру за межамі Беларусі будзе складана. Да закрыцця фестывалю яны падышлі быццам бы паспяхова — іх узялі ў заключны канцэрт. Вось толькі тэлеверсія канцэрта на РТР аказалася скарочанай у многім за кошт нашых землякоў. Не ўбачылі расіяне «Крыві» і «Верасят». Не прагучала заключная песня ў выкананні Іны Афанасьевай і Мікалая Скорыкава. Ну што ж, трэба задавальняцца малым. «Засвяціўся» на РТР Дзяржаўны ансамбль танца — з добрым нумарам, але вельмі доўгім. І любімы ў Расіі гурт "Ляпіс Трубяцкой" — з запісанымі на фанаграму авацыямі.

## Свабодная Лайма

Чароўная Лайма Вайкуле паведаміла, што не хоча выходзіць замуж. Хаця ёсць чалавек, з якім яна знаёмая з 16 гадоў, ён іграў у яе групе, і яны даўно разам. Андрэй дапамагае Лайме ў любых цяжкіх сітуацыях, і яна нікольki не сумняваецца ў яго надзейнасці. Але, на думку спявачкі, ёсць сур'ёзная праблема — Лайма праваслаўная хрысціянка і звязаць свой лёс з кімсьці можа толькі праз царкву. Вянчацца — значыць усё жыццё быць з адным чалавекам без магчымасці саступіць убок. «Не магу пайсці пад вянец,— сказала Лайма.— А раптам ён у некага закахаецца і будзе пакутаваць? З-за гэтага буду пакутаваць і я. Усё вельмі сур'ёзна, каб проста з-за прыхамаці зрабіць такі крок».

## НА «ПРЫДВОРНЫХ» ТРЭБА РАЎНЯЦЦА

### *Алег Газманаў у Віцебску даў першы сольны канцэрт пасля траўмы. Між іншым, у свой дзень нараджэння. Можа таму быў у добрым настроі і ахвотна адказваў на розныя пытанні*

**— Год таму канцэрт у гонар 930-годдзя Мінска пачаўся з вашай песні «Масква». Вас спецыяльна «заказвалі» з гэтай песняй ці вы самі вырашылі яе спяваць?**



— Ну, можаце напісаць, што мяне «заказалі» спецыяльным пісьмом...Але калі мы ляцелі ў самалёце з Юрыем Міхайлавічам Лужковым, ён перажываў: «Як жа ты будзеш спяваць гэтую песню, магчыма, можна ее трошкі змяніць і зрабіць «Мінск—Масква»? Я сказаў, што дрэнна кладуцца гэтыя словы на музыку, не падыходзіць. Ён кіўнуў: ну так, так... Вельмі добра памятаю той момант. Толькі прыехалі, адразу на сцэну — рэпеціраваць з беларускім аркестрам. Але я ўсё ж такі радок у песні змяніў: «Если будет стоять Беларусь, не иссякнет Россия-река».

**— Вы лічыце сябе прыдворным кампазітарам?**

— Бах, Моцарт былі прыдворнымі кампазітарамі. Што, яны пісалі дрэнную музыку? Канешне, я не дасягнуў такога ўзроўню, каб нейкім чынам параўноўваць сябе з кімсьці. Але ва ўсякім разе, на заказ я не спяваю. Так, у мяне добрыя адносіны з Лужковым. І што з гэтага вынікае?

**— Як вы звяртаецеся да мэра Масквы ў прыватнай абстаноўцы?**

— Ну дакладна не Юра...

**— Ваш стыль існавання на эстрадзе?**

— Не прыдумваю гісторый, каб працiснуць свае песні шляхам скандалу. Не люблю падобныя справы. Затое лічу, што артысту трэба прыдумваць нешта такое, каб весялей было. Вось хутка мае імя павінна быць закатана ў асфальт. Ёсць такі рытуал «закаткі «зорак» у асфальт», які праходзіць надзвіва аднолькава. Я хачу зрабіць так, каб было нетрадыцыйна і цікава. А калі гаварыць шырэй пра стыль, то ўвогуле не хачу, каб ад тэкстаў песень адцягвала ўвагу непатрэбная мішура — у каго які балет, хто як выглядае. У мяне з'явіўся свой балет. Але не з-за таго, што імкнуся да знешніх эфектаў. Проста некаторыя песні патрабуюць ілюстрацый.

**— Не ўзнікае жадання акрамя эстрады заняцца нейкай сур'ёзнай справай? І ці азартны вы чалавек?**

— Я шчаслівы, што музыка мяне забяспечвае. Пры гэтым у мяне даволі азартнае жыццё, яго забяспечвае сцэна.

**— Вашы песні часта цытуюцца ў КВЗ...**

— Мне гэта вельмі падабаецца. Неяк сустрэліся ў адным магазіне з Сашам Масляковым. Пагаварылі якраз на гэтую тэму. Ён сказаў, што ў КВЗ самы правільны хіт-парад, ён сведчыць пра папулярнасць песні.

**— Што падштурхнула напісаць «футбольную» песню?**

— Я даўні балельшчык футбола. Заўсёды хваліюся за «Спартак» і калінінградскую «Балтыку». У клубаў на Захадзе ёсць свае песні. Я падумаў: чаму гэта лепшыя ў свеце балельшчыкі «Спартака» не могуць мець своеасаблівага гімна? Напісаў песню. Дамовіліся сустрэцца са спартакаўскімі фанатамі, яны нават у нечым мяне папраўлі. Раздалі касеты хлопцам — калі спадабаецца, каб вывучылі песню, а потым сабраліся на стадыёне, запісалі яе.

## Музыка — у цэнтры

Балгарка Радасціна Колева была ў неўразуменні, пакідаючы гасцінную Беларусь. Бо яна аказалася настолькі гасціннай, што дзяўчына да канца фестывалю рэзка папоўніла свой багаж. Справа ў тым, што акрамя трэцяй прэміі Радасціне ў падарунак дастаўся вялікі і даволі цяжкі музычны цэнтр. Як яго давесці дадому? Усе яе сябры-земляки пасля Віцебска не збіраліся ехаць у Балгарыю, у іх былі намечаны іншыя маршруты. Радасціне выпала выпрабаванне адной у цягніку весці вялікі цэнтр. Ёй прапаноўвалі вырашыць справу па-іншаму. Прадаць цэнтр тут, а там, калі трэба, купіць новы. Яна адмовілася — цэнтр зроблены па спецзаказу у выглядзе бутэлькі з-пад жалезнай бляшанкі «кока-колы». Няхай застаецца як памяць, вырашыла Радасціна Колева, збіраючыся ў дарогу.

## Раз Ліепа, два Ліепа

На сустрэчы з Андрысам і Ілзе Ліепай на століках раптам з'явілася кока-кала. І прадстаўнікі прэсы тут жа прыпомнілі, што Ілзе паспяхова знялася ў рэкламным ролiку мінеральнай вады, якую выпускае «Кока-кола». Аказалася, што нашчадкі слаўнай балетнай дынастыі акрамя таго, што прадстаўляюць фонд імя свайго бацькі Марыса Ліепы, нейкім чынам абараняюць інтарэсы гэтай фірмы. Андрэс вельмі любіць напоі, якія выпускае фірма, і кажа, што перад выступленнямі можа піць толькі «колу». Але роля гэтай вады ў балеце гэтым не абмяжоўваецца. Ілзе расказала, як аднойчы трэба было выступаць на сцэне са слізкім пакрыццём. Прыйшоў Андрыс і прапанаваў памыць падлогу «кока-колай». Калі надышоў час выходу на сцэну, Ілзе здзівілася — ногі прыліпалі да падлогі. Потым ізноў менавіта Андрыс падштурхнуў сястру да здымкаў у рэкламе.

Праўда, апошнім часам ён і сам выступае ў якасці рэжысёра. У Віцебску славуты танцоўшчык прадставіў свой фільм-балет «Жар-птушка», дзе ўдзельнічаў сам і не пакінуў без ўвагі сястру. Магчыма, у хуткім часе прозвішча Ліепа будзе асацыіравацца не толькі з балетам, але і з кіно.

## Бабкінай спадабаўся прыгажунчык

На конкурсе маладых выканаўцаў на кожнага маладога спевака прыпадала па члену журы. Журы з гэтай нагоды нікольki не журылася, наадварот. Мэтры запэўнілі, што вызначыліся ў сваіх сімпатыях адразу. Расіяне засмуціліся, што іх канкурсанты выступілі няўдала, хоць адзін з іх — масквіч з несапраўдным прозвішчам Берэшы, на думку Ігара Крутога, мае добрыя даныя, каб працаваць на сцэне. Але прадстаўнікі Расіі не трапілі ў лаўрэаты. П'едэстал размеркаваўся ў залежнасці ад колькасці набраных балаў. Праўда, чамусьці вынікова пасяджэнне журы зацягнулася ледзь не да раніцы. Пра што ж тады журы разважала так доўга? Старшыня адказаў так: «Надзея Бабкіна адстойвала прыгажунчыка з Расіі».

## Сябры на сцэне і ў жыцці

Леў Лешчанка, можа, і хацеў бы паведаміць журналістам нешта сур'ёзнае. Але Уладзімір Вінакур усю размову пераводзіў у рэчышча жартаў. На самай справе, Уладзімір Натанавіч думае, што на «Славянскім базары ў Віцебску» сябрам удвах прапанавалі выступіць толькі дзеля аднай песні— «Гэй, славяне». Праўда, Леў Валяр'янавіч быў заняты і ў іншых фестывальных канцэртах. А вось пасля ён вельмі ахвотна згаджаўся сфатаграфавацца з тымі, хто пранік за кулісы. І цярпліва чакаў, калі людзі прывядуць сябе ў парадак і падрыхтуюць «мыльніцу». Такая цярплівасць уласціва хіба што прафесійным фотамадэлям. А яшчэ Леў Лешчанка звярнуў увагу на Ліку Ялінскую. Яна падалася яму цікавай спявачкай.

Матэрыялы старонкі падрыхтавала Ларыса ЦІМОШЫК.

## «ПРЫМАДОННА» НА ДВАІХ

### *Людміла Гурчанка раскрыла ў Віцебску сакрэт свайго ўдзелу ў кліпе Алы Пугачовай «Прымадонна»*



«Гэта выпадковая гісторыя,— сказала Людміла Маркаўна.—У яе не было перадгісторыі і працягу таксама. Я доўга хварэла: быў вірус, потым заражэнне крыві. Тады падумала, што вельмі трэба сказаць многім людзям добрыя словы. А я яшчэ не паспела. Так было з Еўсігнеевым. На здымках у «Гардэмарынах» ён неяк сказаў мне:«А ты ўсё ж такі малайчына». Праз месяц яго не стала. Так было з Гертам. Аднойчы ўвечары ён ні з таго ні з сяго пазваніў: «Я хачу табе сказаць, каб не звяртала ні на кога ўвагі...» Вельмі хутка і ён памёр. І вось тады, калі я пабалансавала паміж жыццём і небыццём, зразумела, што важна паспець выказаць іншым сваю спагаду.

Неяк на паказе мод у Валі Юдашкіна былі Ала з Філіпам. Я падышла і з задавальненнем нешта ёй сказала. Хоць да гэтага моманту паміж намі не было ніякіх адносін. Потым праз пэўны час яна нечакана пазваніла і прапанавала паўдзельнічаць у кліпе. Я папрасіла напець мелодыю. Аказалася, што гэты кліп павінен здымаць Федзя Бандарчук. Менавіта ён быў рэжысёрам фільма «Люблю», дзе я іграла. Уначы мы сустрэліся з Пугачовай на «Масфільме», каб далі патрэбную залу. Сустрэліся — і маўчалі, не ведалі, пра што гаварыць. Яна тады была яшчэ вялікая. Але працу зрабілі.

Яшчэ праз пэўны час мяне пачаў атакаваць Філіп, каб праспявала песню Пугачовай у канцэрце да яе дня нараджэння. Здзівілася: ну як я магу гэта праспяваць? Але Філіп прывёз альбом з 200 песень — на выбар. Зачыніўшыся на дачы, мы доўга выбіралі. Паслухаўшы песню «Фатограф», я падумала, што і са мною было нешта падобнае. Выйшла з ёю ў канцэрце. І усё. Больш нашы шляхі не перасякаліся».

## СЛАВА Ў МОДЗЕ

### *Яму 60 гадоў. А ён хоча, каб усе называлі яго Слава*

**— Вам не падабаецца імя па бацьку?**

— Справа ў тым, што калі я нарадзіўся, на сцяне бацькоўскай хаты вісеў партрэт Молатава. Яго звалі Вячаслаў Міхайлавіч. І мае бацькі, не доўга думаючы, назвалі мяне так. Я ненавіджу сваё імя. Болей падабаецца, калі мяне называюць проста Слава.

**— Ваш сын таксама мадэльер. Паўплывалі вы на яго выбар?**

— З яго мамай мы разышліся, калі Ягору было 9 гадоў. І сустрэліся з ім, калі сыну было гадоў 16. Я для яго стаў чужы. Ён не можа дараваць мне, што кінуў яго. А на самай справе не я яго кінуў, а цешча вырашыла, што я не падыходжу яе дачцэ. Маці мая была прыбіральшчыца, я з простай сям'і. І з-за гэтага таксама няпроста даводзілася прабіваць сабе шлях. Сыну цяжка было ўсё гэта зразумець, ён даволі замкнёны чалавек. Складае вершы. Аднойчы я іх прачытаў — сказаў сыну, што болей ніколі не павішу на яго голас. Вельмі яго паважаю, сціплы чалавек. Канешне, мару, каб ён заняў маё месца. Але і «прабіваць» яго не буду. Не люблю блатных, калі б хацеў, ужо даўно мог бы яго ўладкаваць.

**— Як павінна выглядаць жанчына, каб вы аценілі яе густ?**

— Я маю 36-гадовы вопыт апранання і распранання, таму магу сказаць, што густ маўчыць, крычыць безгустоўнасць. Жанчына — з'ява невытлумачальная. Цудоўным увасабленнем жаноцкасці для мяне з'яўляецца Како Шанель. Яна здолела замацавацца ў свеце моды, таму што была з мужчынскім характарам. Але яна была адзінокая, жыццё вымушала абараняцца. Усё, што яна стварала, і цяпер надае мне прастор для роздуму. Жываншы, Валянціна, Ў Сен Ларан — мае настаўнікі, таму што яны любілі жанчын і імкнуліся іх апранаць. Распранаюць жанчын на подыуме тыя мадэльеры, якія.іх не любяць. Канешне, адзенне павінна быць сексуальным, але не крыклівым. Сексуальным у тым сэнсе, каб хацелася ісці за ёю, імкнуцца пакарыць яе. На самай справе для мяне як мадэльера не існуе праблемы, каго апранаць. У сэнсе паўнаты ці росту. Калі жанчына хоча выглядаць элегантна, я магу ёй дапамагчы.




**1/19. Макрыны (Макрэня, Макрэні, Макрыдка)** — прысвятак, з якім асацыіруецца макрэча, дажджлівае надвор'е, аб чым сведчаць і прыказкі: «Глядзі восень па Макрыне»; «Як не будзе на Макрыні дажджу, то не будзе бульба гнісці ў зямлі»; «Як на Макрэню дождж, то будзе ўсю Спасаўку дождж».

**2/20. Ілля (Лля, Галляш)** — апякун земляробства і абаронца ад «нячыстай сілы», які ўвабраў у сябе рысы язычніцкага бога Перуна. Свята дажджоў і навальніц. Успрымаецца як канец лета і пачатак восені. Ілля багаты на прыказкі: «Прыйшоў Пятрок — сарваў лісток, прыйшоў Ілля — сарваў два»; «Прыйшоў Ілля — укінуў у ваду кусок льда»; «Ілля нарабіў гнілля»; «На Іллю да абеда лета, а пасля абеда восень»; «Ілля ваюе з чартамі, іх б'е перунамі»; «Ілля жніво пачынае, а лета канчае»; «Калі на Іллю паспелі чарніцы, паспела і жыта»; «Ілля блізка: гніся, баба, нізка, уставай раненька, ды жні дапазненька»; «Ілля пытае, ці гатова ралля, а Успенне, ці гатова насенне»; «На святога Галляша з новых круп каша»; «Да Іллі на сене пуд мёду, а на Іллі пуд гною».

Заканчвалі касавіцу, хадзілі талакою касіць удовам. У Лельчыцкім раёне гавораць: «Іванове сена — панове, а Петрове ўжэ не такове, а Іллінэ — удовінэ». Праводзілі зажынкі — свята пачатку жніва.

*Святы Ілля — стара жняя.*
*Гаспадынька ідзець у поле,*
*З хлебам, соллю зажынаць*
*Ды з маленькім сыночкам,*
*Ды з сярэбраным сярпочкам...*
(Ілукстэнскі павет.)

Ілля — адзін з папулярных вобразаў у фальклоры, нягледзячы на тое, што больш ён малюецца як адмоўны, грозны і несправядлівы («Ілля наробіць гнілля»).

Жнівеньскія ліўні з бясконцымі маланкамі празвалі «рабінавымі днямі (начамі)», якія часцей пачыналіся на Іллю. Аб даўнасці гэтага паняцця сведчыць яшчэ Цвярскі летапіс, дзе апісваецца чарнігаўская бітва 1024 г. паміж братамі Яраславам Мудрым і Мсціславам («Мстислав же слышав изыде противу их на сечу к Листвену, и бывше осень, и ту ся сретогла... И бывше нощи рябинной, бысть тьма и гром бываше и молния и дождь. И бысть сечи зла и страшна...»).

Існуе павер'е ў народзе аб громе. Грыміць таму, што Ілля (Пярун) грукаціць на калясніцы па хмарах і кідае маланкі-стрэлы ў нячыстую сілу, якая можа ператварацца ў розных звяроў, каб ратавацца. У прыродзе сапраўды пасля сонцастаяння (Купалы, Пятра) назіраюцца змены надвор'я як перамога Іллі над Пятром. З гэтымі міфамі, мабыць, звязана і даўняя завядзёнка паляўнічых пачынаць адстрэл звяроў.

Народнае ўяўленне, што праяўляецца ў свяце Іллі, цесна звязана з біблейскай гісторыяй аб прароку Іллі, што нарадзіўся ў Фесвіі Галаадскай яшчэ за 900 гадоў да хрысціянства. Ілля (у перакладзе з яўрэйскага «апора Божая») перад паганскімі жрацамі і ізраільскім народам, які перастаў верыць у Адзінага і ад чаго тры гады была засуха, запаліў агнём з неба мокры ахвяравальнік, што не змаглі зрабіць жрацы са сваімі багамі. Дзякуючы гэтаму язычнікі паверылі ў адзінага Бога, жрацы былі забіты, а народ пасля малітвы прарока атрымаў доўгачаканы і жыццядайны дождж. За гэты і іншыя цуды Ілля па Божай волі ўзляцеў на неба на вогненнай калясніцы.

Адзіны старазапаветны персанаж і яго гісторыя прызнаны хрысціянскім культам побач з іншымі святымі (напрыклад, з Міколам Угоднікам). Язычніцкая традыцыя (Пярун) тут удала спалучылася з хрысціянскай, што трымаецца на такіх вызначальных асновах, як гром, дождж, калясніца.

**4/22. Мар'я (Магдалена).** Жаночае імя хрысціянскай міраносіцы Марыі Магдалены, якое дало назву прысвятку, асацыіруецца ў народзе з клопатамі жанчын аб ураджаі і прадказаннем надвор'я: «На Мар'ю росна — лён будзе шэры, неўмалотны». У гэтую ж пару дні ўжо халодныя, асабліва на поўначы. Прыкмячалі: калі туман халодны, зіма чакаецца ранняя і марозная. З надвор'ем звязана і наступная прыказка: «Магдалена — вады па калена».

Марыя Магдалена лічыцца паплечніцай Ісуса Хрыста. Яна стаяла разам з іншымі жанчынамі ля распяцця, аплакваючы пакуты Выратавальніка, які найперш з'явіўся да яе пасля ўваскрэсення. Марыя Магдалена стала першай евангелісткай і таму яна раўнаапостальская, бо прыраўнавалі яе прапаведніцкае жыццё да жыцця 12 апосталаў. Нездарма гэты вобраз займае ў іканапісе другое месца пасля Багародзіцы. Здаўна Марыя Магдалена з'яўляецца апякункаю дзяўчынак-сірот.

**6/24. Барыс (Глеб, Хлеб Барыс, Барысы, Барыс Палікоп)** — адзін з апекуноў земляробства. «Святы Барыс снапы возіць», «На Глеба і Барыса хлеба напарыся і за раллю бярыся», «Барыс і Глеб — паспеў хлеб». На Смаленшчыне прызнаваўся «грозным святам хлябоў», называўся «Хлеб Барыс». У полі не працавалі, асцерагаліся вятроў, заканчвалі купаца. «Па Барыса за Хлеб не бярыся», лічылі ў народзе. Бо Ілля пасылаў свайго суседа Барыса Палікопа забіваць перуновымі стрэламі палявых д'яблаў, які часта пападаў імі ў колы і спальваў іх.

Народ вылучаў з невялічкага шэрагу кананізаваных імён на гэты дзень князёў Барыса і Глеба, якія былі забіты іх братам Святаполкам у 1015 годзе.

**7/25. Ганны (Ганна)** — прысвятак. У каляндарных песнях паказваецца, як дбайная жняя. Прыказкі таксама малююць Ганну гаспадыняй-жняёй: «Святая Ганна снапы кладзе».

Дзень у памяць смерці Ганны, маці Прасвятой Багародзіцы.

**9/27. Палікоп (Палікапа, Палікапы)** — дзень жніва, у які нібыта маланка паліць копы, стагі, хаты. У некаторых раёнах Палікопам называюць дні ад Барыса да гэтага дня. Некалі стараліся ў полі не працаваць. У Столінскім раёне гавораць: «На Палікопу як робіш, выйдэ хмара і ўдарыць гром, і спаліць копу хлеба».

**Панцеляймон (Панцялей).** На Магілёўшчыне лічыўся лекарам ад хвароб галавы. У народзе казалі: «З Панцялея капуста пачынае ў качан завівацца. Хто на Панцялея працуе, таму надалей не пашанцуе».

Палікоп — чыста народная традыцыя, а прысвятак Панцеляймон утварыўся ад імя хрысціянскага велікамучаніка і лекара.

**10/28.** *Лаўрын.* Прысвятак напамінаў селяніну, што ўжо можна малоць першае жыта на муку: «На Лаўрына спяшай да млына».

**Алесь ЛОЗКА.**

АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

# КРАСА І СІЛА



Беласточчына дала нашай культуры нямала літаратараў, мастакоў, кампазітараў. Ды і зараз беларушчына там жывая, варта толькі наведаць любую вёску. А ў самім Беластоку і ў іншых гарадах працуюць беларускія культуралагічныя асяродкі, выдаюцца часопісы, штотыднёвая газета «Ніва», на старонках якой знаходзіцца месца паэтычнаму слову не толькі мясцовых літаратараў, але і суайчыннікаў з Беларусі, прадстаўнікам эміграцыйнай паэзіі.

Пазней мы абавязкова пазнаёмімся з творчасцю і Сакрата Яновіча, і Надзеі Артымовіч, і Яна Чыквіна, і Міраславы Лукшы, а сёння вашай увазе — верш «Вучыць бацька мяне араць» Петруся Макаля, які нарадзіўся ў вёсцы Крушуняны на Беласточчыне (25.8.32 г.) за сем гадоў да ўз'яднання Усходняй і Заходняй Беларусі ў верасні 1939 года. Ведаючы дасканала беларускую, польскую, рускую мовы, мабыць, нездарма Пятрусь Макаль плённа займаўся перакладамі з іншых славянскіх моў, асабліва са славацкай. Акрамя гэтага ягоныя п'есы для дзяцей не раз ставіліся на тэатральных сцэнах рэспублікі.

Пасля першага надрукаванага верша ў семнаццацігадовым узросце ў яго выйшла ў свет больш за дзесятак паэтычных кніжак, у тым ліку і дзіцячых. Адзін з лепшых зборнікаў паэта пачынаецца па-народнаму філасафічным вершам-успамінам «Вучыць бацька мяне араць». Нездарма народнае выслоўе «Век жыві, век вучыся» ён разумеў літаральна, імкнуўся быць аратым не толькі ў жыцці, але і ў паэзіі.

Вядома, Пятрусь Макаль пакінуў сваю баразну ў айчыннай літаратуры. Пра гэта сведчыць не толькі Дзяржаўная прэмія імя Янкі Купалы і літаратурная імя Аркадзя Куляшова, але памяць і павага калег-паэтаў ды чытачоў.

**Пятрусь МАКАЛЬ**



### ВУЧЫЦЬ БАЦЬКА МЯНЕ АРАЦЬ

*Поле. Ранак. Аратых раць,*
*Ходзіць кругам уся акруга.*
*Вучыць бацька мяне араць —*
*Я ледзь-ледзь дастаю да плуга.*
*Я, здаецца, ледзь-ледзь іду:*
*Водзіць сіла мяне сляпая...*
*Ды ўтрымаюся, не ўпаду,*
*Калі поруч настаўнік ступае.*
*Кажа бацька: — Бяры глыбей!*
*І палоніць раллі адчуванне.*
*Скача сэрца як верабей,*
*Ад шчымлівага хвалявання.*
*З неба штосьці мне раіць жаўрук,*
*Штосьці шэпча мне ветрык на вуха.*
*Спасцігаць як навуку навук*
*Мне цябе, глыбіняў навука.*
*Лёс мой думны — жытнёвы лёс*
*Неруш поля нарогам адродзіць.*
*На зямлі і ў вышынях нябёс*
*Зноў і зноў мне барозны праводзіць...*
*З кожнай новаю баразной*
*Свет мне робіцца большым другам.*
*Плуг спачатку валодаў мной,*
*А цяпер я валодаю плугам.*
*Пачакай, не ўцякай, вышыня:*
*Да цябе яшчэ дабяруся!*
*Хіба, зорная, ты не радня*
*Поля жытняга Беларусі?*
*Калі поруч аратых раць,*
*Не ўпаду я, дайду да сонца,*
*Што хавалася ў баразёнцы...*
*Вучыць бацька мяне араць.*

**Анталогію вядзе Анатоль СЫС.**

***Сённяшняе апавяданне, а яшчэ раней надрукаванае ў «Звяздзе» апавяданне А. Наварыча «Далікатны сын» навялі мяне на такія разважанні: а ці маглі б падобныя творы ўзнікнуць у нармальным, цывілізаваным грамадстве? Напрыклад, можна ўявіць сабе якуюсь сучасную немачку з дзіцем на аўтавакзале Франкфурта-на-Майне, якая гаруе, што не здолела дастаць білет да Берліна? А можна ўявіць, як які-небудзь Джэк ці Джон у лас-вегаўскім метро не саступае месца ўласнай маці? Правільна — уявіць гэта цяжка.***

***Мы носімся, як з пісанай торбай, з нашай славутай «славянскай душою», якая «тонка адгукаецца на чужыя болі і радасці», носімся, часта не ўсведамляючы, што, калі б хоць крыху ўладкоўваўся наш элементарны побыт, не было б на што «адгукацца», многія праблемы, якія ўкарачаюць наш век, зніклі б самі па сабе.***

***Вы, магчыма, шаноўныя чытачы, скажаце — а творы? Калі б усё ў нас было цывілізавана, культурна — у сям'і, на працы, у транспарце, у магазінах — дык не было б многіх, і зусім някепскіх, раманаў, аповесцяў, вершаў і апавяданняў. Нічога страшнага, адкажу. Знайшлося б пра што пісаць — абы ахвота...***

***Зрэшты, разумею, што разважанні гэтыя крыху не з той оперы... Пра спадара ж Івана Стадольніка, свайго старэйшага сябра (паводле любімага выказвання А. Сыса), хачу сказаць толькі адно: ён з тых пісьменнікаў, якія менавіта пішуць як жывуць. Сумленна і шчыра.***

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

***На конкурс «Звязды» і Саюза пісьменнікаў***



Іван СТАДОЛЬНІК

# НАЗАВІЦЕ ІМЯ СВАЁ!..

**Апавяданне-быль**

ЧАМУСЬЦІ ЎСЁ, што я змог зрабіць людзям добрага, не застаецца ў памяці, як усё роўна правальваецца некуды ў нябыт. Толькі адзін учынак, і зусім нязначны, назаўсёды ўрэзаўся ў памяць. І калі цяжка на душы, калі нейкае бязладдзе ў жыцці, мне адразу прыходзіць на памяць тая жанчына з дзіцем і чуецца выяўна, як і тады, яе нібыта адчайны, надрыўны, з прымессю плачу, голас:

— Назавіце імя сваё!..

Было гэта не так даўно, як цяпер любяць успамінаць, у шчаслівыя застойныя гады, калі і мы ўсе былі шчаслівыя. У той дзень і я быў ледзь не самым шчаслівым чалавекам. У касе папярэдняга продажу ўдалося, як тады казалі, дастаць білет на аўтобус у Полацк. І я быў шчасліўчыкам. Тым, хто стаяў за мной, білетаў ужо не хапіла. А ў гэты дзень, дзень майго ад'езду, удалося таксама купіць каўбасы і нават апельсінаў дочкам. І так: было вельмі радасна, што не прапала дарэмна маё доўгае стаянне ў чэргах, і што ў намечаны час прыеду дамоў, ды яшчэ з гасцінцамі.

У такім шчаслівым настроі я і прыйшоў на аўтавакзал. Прыйшоў загадзя з нейкім трывожным страхам, што можа сарвацца па нейкай прычыне рэйс, ці, не дай Бог, запазнюся.

Быў ліпень месяц. Стаяла невыносная гарачыня. Духата. І людзей на пероне процьма, таўкатня, нейкі надрыўны гоман, крыкі.

Майго аўтобуса яшчэ не было, а людзей на прыпынку стаяла вельмі многа. Ясна, што шчасліўчыкаў з білетамі — усяго палавіна. Як «абілечаны», я не стаў праціскацца ў натоўп, стаў ззаду, дзе было крыху вальней.

І раптам недалёка за маёй спінай пачуўся надрыўны, з плачам, крык дзіцяці.

— Мама, ма-а-а-мачка! Хачу да баб-у-у-лі!..

— Што, я цябе на сабе панясу? Хіба не бачыш, колькі людзей! — адразу ў адказ пачуўся істэрычны крык жанчыны. — Паедзем назад!

А дзіця ўсё мацней плакала, прасілася да бабулі. Я прымусіў сябе нейкі момант не звяртаць увагі, як і ўсе, што былі вакол, на гэтую непрыемную сцэну. Але калі жанчына раптам ляснула па шчацэ дзіцяю і тое закрычала яшчэ больш адчайна, як бы просячы ў каго паратунку, я не вытрымаў, праціснуўся праз некалькі чалавек на голас, бо ніколі не вытрымліваю, калі хто плача, асабліва дзіця. Перад лаўкай, на самым краёчку якой нейкім чынам удалося прыткнуцца і сесці светлавалосай, у лёгкай паркалёвай сукенцы жанчыне, стаялі два даволі ладныя клункі, на адным з якіх сядзеў хлопчык гадоў сямі і плакаў.

— Навошта вы б'яце дзіця? — неяк недалікатна запытаў я.

— А што я магу зрабіць? Білетаў няма. Самой хоць пад колы кладзіся. А тут яшчэ ён. Да бабулі, да бабулі, — і жанчына заплакала.

— Ну, не плачце, — ужо мякчэй сказаў я. — Можа, як-небудзь удасца яшчэ сесці.

— Удасца?! — скрозь слёзы злосна ўсміхнулася жанчына. — Мы з самага ранку ўжо тут. Тры аўтобусы пайшлі на Полацк. А мы як тырчэлі, так і тырчым. З самага Днепрапятроўска едзем, цэлых двое сутак. А людзей, самі бачыце, колькі... Ледзь не ўсю дарогу стаялі. І ўсё праз яго, — ужо гэтак злосна, як і на мяне, зыркнула жанчына на сына. — Заладзіў: да бабулі, да бабулі. А як дабрацца да той бабулі? І я, дурная, паслухалася!..

Крыху супакоіўшыся, жанчына сказала, што едзе да маці ў Себеж. У Полацку жыве яе сястра, там і збіраецца паначаваць, а назаўтра ўжо дабярэцца на сваю радзіму.

Хлопчык як бы адчуў маю спагаду да яго, а мо і нейкую падтрымку, раптоўна заплакаў гучней:

— Мамачка. Паедзем. Паедзем да бабулі!.. Мамачка!..

— Едзь! Ну едзь! Бачыш, як мы едзем? — раптоўна ўскочыўшы са свайго месца, скрозь плач закрычала жанчына і зноў дала хлопчыку аплявуху. Той ускрыкнуў, ускочыў з клунка, хацеў некуды ўцякаць. Ды маці паспела схапіць яго за руку.

У мяне кальнула ў пяты. Чамусьці, калі бачу, што некаму баліць, мне заўсёды коліць у пяты. Як быў зубным урачом, дык заўсёды стараўся добра рабіць анестэзію, каб не дай Бог пацыент не ўскрыкнуў.

— Пачакайце, пачакайце. Я журналіст. Я, можа, і дапамагу вам.

Жанчына з недаверам, а як мне здалося, і са страхам паглядзела на мяне. Я зразумеў, што яна і сапраўды мяне баіцца, не верыць. І я хуценька дастаў з нагруднай кішэні сваё журналісцкае пасведчанне, паказаў ёй.

— Нікуды адсюль не ідзіце. Пастараюся што-небудзь зрабіць... — Я подбегам накіраваўся ў будынак вакзала.

Ні ў касах, ні ў дзяжурнага вакзала я не знайшоў дапамогі. Дабраўся да начальніка вакзала, ведаючы, што ў яго заўсёды ёсць броня. Але і тут не пашанцавала. Начальніка не было на месцы. Бегам, прадзіраючыся праз натоўп, я паімчаўся да аўтобуснага прыпынку. Па часе пасадка павінна быць у самым разгары. І я аж задыхаўся ад думкі, што жанчына можа палічыць мяне за нейкага падманшчыка, ашуканца ці больш таго.

Жанчыну і праўда заспеў ужо з клункамі ў руках. Яна не плакала, не плакаў і хлопчык. На іх тварах быў цень нейкай абыякавасці, безвыходнасці. Я схапіў жанчыну за руку і як бы ў сне сказаў:

— Ідзіце ў аўтобус. Вось білет!.. Мой...

Жанчына як акамянела. Нейкім дзіўным позіркам уставілася на мяне. Потым паўшэптам перапытала:

— Ваш?.. А вы?..

— Я тут усё ведаю, як-небудзь на спадарожных дабяруся, — і не чакаючы згоды жанчыны, уклаў ёй у далонь білет. Памог паднесці клункі. У дзвярах аўтобуса жанчына запынілася, спрабуючы расшпіліць сумачку, відаць, каб заплаціць за білет, але я прапусціў уперад хлопчыка і сілай упіхнуў жанчыну ў салон.

Аўтобус яшчэ крыху затрымаўся, бо нехта з безбілетнікаў адчайна хацеў убіцца ў яго, але шафёр, даволі малады хлопец, перамог.

У маім білеце было пазначана і месца. І я ўбачыў праз акно, што жанчына прабіраецца да яго.

І калі аўтобус ужо адправіўся, у адчыненым акне паказалася галава жанчыны і я пачуў яе адчайны голас, поўны слёз:

— Назавіце імя сваё!..

— Бог назаве! — крыкнуў я наўздагон аўтобусу і раптам аж заплакаў сам ад нейкай лёгкасці на душы, нейкай раней неадчуванай радасці.

У той дзень мне зноў пашчасціла. Я ўдала сеў на спадарожную машыну і шчасліва даехаў да свайго Полацка.

Вельмі часта, калі ў мяне якая радасць ці непрыемнасць, абавязкова чуецца той дрыготкі голас жанчыны:

— Назавіце імя сваё!..

Толькі ёсць такое адчуванне, што гэтыя словы датычацца зусім не мяне, а некага іншага, усіх людзей.

*З ЗАЛЫ СУДА*

# ЗА САМАГОНКУ АДДЗЯЧЫЎ ...НАЖОМ

Да свята 8 Сакавіка заставалася ўсяго два дні, і Сяргея Кабушава мучыла думка: дзе ўзяць грошы? І каб сяброўцы-каханцы букет жывых кветак паднесці, і з'явіцца перад ёй у модным адзенні: у джынсах, красоўках і, вядома ж, у скураной куртцы. Ва ўсім новенькім! Толькі для гэтага трэба мець грошы. А дзе іх узяць? Ніхто не пазычыць — гэта факт. Ні маці, ні сястра, ні бабуля, ні сябрукі. У адных іх, грошай, проста няма, другія ж не павераць, што ён калі-небудзь іх верне.

Сяргей скінуў з сябе коўдру, прысеў на ложак. Бабуля Аляксандра Іванаўна рыхтавала снядана, каб накарміць яго, свайго 29-гадовага ўнука. Ён ведаў, што ў душы яна папікае яго за тое шалапутнае жыццё, якое ён сам абраў сабе. Выпіваць як пачаў з чатырнаццацігадовага ўзросту, так і не перастаў дагэтуль. Больш таго, выпіўкі тыя насілі так званы бессістэмна-запойны характар — па тры-чатыры дні запар. Таму і маці, з якой ён жыў да арміі і пасля, выгнала яго з дому, і першая, і другая жонкі адцураліся і пакінулі яго. Добра, што хоць родная бабуля прытуліла яго, на сваю шыю пасадзіўшы.

Позірк Сяргея наткнуўся на недапітую з вечара бутэльку гарэлкі, якой яго аддзячыла адна маладзіца за выкананую работу. Праз колькі хвілін ён апустошыў яе, закусіўшы двуматрыма бульбінамі і салёным агурком і, нічога не сказаўшы бабулі, крадком паклаў у цэлафанавы пакет кухонны нож. Рашэнне прыйшло ў ачмурэлую галаву імгненна: неабходна некага прыкончыць і здабыць тыя грошы. Многа іх не трэба, а толькі на падарунак каханцы і набыццё для яго, Сяргея, джынсаў, красовак і скураной курткі.

«Аб'ект» для гэтага быў абраны, з яго пункту гледжання, даволі ўдалы: Юлія Цімафееўна Калініна. Удава-пенсіянерка, жыве адна ў трохпакаёўцы на суседняй вуліцы. Калі-нікалі гоніць самагонку, і Сяргей сам неаднойчы набываў яе там.

Жанчына дзверы перад ім адчыніла не адразу: ці мала хто там можа быць. Але, калі пачула знаёмы голас свайго кліента, упусціла яго. На пытанне, ці ёсць самагонка, кіўнула; ёсць. І тут жа пачала скардзіцца: некаторыя бессаромнікі выпрошваюць у яе пітво, а разлічвацца не хочуць. Вунь колькі чалавек у даўжніках ходзяць. Сяргей падтакваў, пераводзячы размову на іншыя тэмы, і ўсё выбіраў момант, каб жанчына павярнулася да яго такім чынам, каб ён ударыў яе толькі адзін раз — у сэрца.

А Калініна ўсё гаварыла і гаварыла, і Кабушаў ужо стаміўся ад яе размоў і ніяк не мог дачакацца ад яе той зручнай позы. Таму, калі яна нарэшце ўстала з табурэткі, тут жа ўдарыў яе. Жанчына войкнула і кінулася з кухні прэч. Сяргей ударыў яе другі раз — у спіну. Няшчасная залямантавала што ёсць сілы і выбегла на лесвічную пляцоўку, нарабіўшы такога крыку, што хоць вушы затыкай. І нягоднік перапужаўся, што яго могуць затрымаць ці ўбачыць суседзі Цімафееўны. Ён кінуўся ўніз па лесвіцы, перагнаў жанчыну і «прамазаў» з ударам у трэці раз: нанёс яго не туды, куды хацеў.

На шчасце, Калініна выжыла, правёўшы пэўны час у бальніцы, дзе ёй зрабілі хірургічную аперацыю. А нягоднік знік, паехаўшы да свайго сябра ў вёску, дзе і хаваўся. Але міліцыя ўсё ж адшукала яго. Суд прызнаў Сяргея Кабушава вінаватым у замаху на наўмыснае забойства ў карыслівых мэтах і прыгаварыў яго да пятнаццаці гадоў пазбаўлення волі ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Там ён адначасова будзе праходзіць прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ,**
*г. Рэчыца.*



**Жалезны статак.**

**Фота Максіма МАЛІНОЎСКАГА.**

*ЗДАРЭННІ*

# «ГАРМАТНЫ СТРЭЛ» НА ВУЛІЦЫ КАСМІЧНАЙ

Яшчэ не сцямнела, і мужыкі ў адным з двароў па вуліцы Касмічнай у Гомелі на настойлівыя просьбы сваіх жонак разыходзіцца па кватэрах і дапамагаць ім перабіраць маліну і клубніцы, каб зварыць варэнне, ніяк не рэагавалі, працягваючы рэзацца «ў дурня».

Здавалася, нічога іх адсюль не прагоніць: такія яны былі азартныя ў той гульні. І раптам усе ў адно імгненне ўскочылі і накіравалі свае спалоханыя позіркі ўгару, на дзевяты паверх, дзе ці то пачуўся нейкі гранатны выбух, ці працяжна-пагрозліва грымнула гармата і на іх галовы пасыпаліся чайнік, каструлі, талеркі, а з акна пацягнуўся дымок.

У той жа момант пачуліся крыкі: «Дапамажыце, міліцыю сюды!», і хто-ніхто з ігракоў падумаў, што туды, на дзевяты паверх, пэўна прабраўся тэрарыст і мардуе нейкімі садысцкімі метадамі кагосьці з жыхароў. Іхняе неўразуменне стала яшчэ большым, калі ў адной з кватэр яны ўбачылі пакарабачаныя дзверы, з-пад якіх уніз па лесвічных ступенях цякла гарачая мутная вадкасць.

Сітуацыя праяснілася праз некалькі хвілін, калі з кватэры выйшаў перапалоханы гаспадар і дрыжачым голасам супакоіў прысутных: усё нармальна, ніякіх тэрарыстаў не было, не трэба панікі. Работнікі ж міліцыі, якія аператыўна прыбылі на месца здарэння, былі больш дакладнымі: мутная вадкасць на лесвіцы — гэта брага, а на кухні — разарваны самагонны апарат, які і нарабіў перапалоху ва ўсім мікрараёне.

А пазней выявіліся ўсе абставіны справы. Аказваецца, жонка-настаўніца, як расказалі мне ў прэс службе ўпраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама, падгаварыла свайго мужа (дарэчы, беспрацоўнага, які вядзе цвярозы лад жыцця і ў рот не бярэ спіртнога) не ўдарыць тварам у гразь і на дзень нараджэння свайго сына-дашкольніка запрасіць гасцей. А каб было ўсё «як у людзей», трэба зрабіць запас спіртнога.

З гэтай мэтай муж і купіў у аднаго з суседзяў самагонны апарат, у які залілі брагу і паставілі на газавую пліту. Жонка некуды адлучылася, а муж з сынам селі ў зале глядзець тэлевізар. Што там здарылася, якія непаладкі выклікалі выбух — невядома, бо самагонны апарат узарваўся. Шчасце, што побач нікога не было. Аднак у трохпакаёвай кватэры вылецелі ўсе шыбы (некаторыя разам з рамамі), пашкоджана мэбля, а кухонны рыштунак выкінула на двор. Наперадзе — дарагі рамонт кватэры і непрыемнасці ад міліцыі...

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*СІТУАЦЫЯ*

# ЧОРНЫЯ КРЫЛЫ БЯДЫ

Па-рознаму складваецца ў чалавека жыццё. Ледзь толькі яму споўнілася дваццаць два — узрост станаўлення, росквіту сілы, пошукаў і ажыццяўлення мараў, — як раптам звалілася бяда. Ды што звалілася! Гэтак ударыла, што паляцеў у турэмную бездань. Як сведчыў прыгавор народнага суда, — асуджаны на тры гады пазбаўлення волі і гэткі ж тэрмін не мае права садзіцца за руль аўтамашыны.

Але што ж, урэшце, здарылася? Пры тармажэнні развярнуў машыну не так, як патрабавалі правілы дарожнага руху. Падставіў борт, у які і ўрэзаўся, не паспеўшы вывернуцца, юны матацыкліст. Смерць... Яна доўга стыла ў вачах, выклікала пакуту ў яго, Сцяпана Таўрова. Мусіць, каб неяк адысці ад болю, забыцца, і працаваў, не шкадуючы сябе, на зэкаўскай рабоце, з'яўляўся «высокадысцыплінаваным». У выніку «скінулі тэрмін», а потым, з цягам часу, — зноўку за руль.

А ці трэба было? Можа, і паіншаму наладзілася б жыццё. Набыў бы новую прафесію, знайшоў бы іншую работу, тым больш, да яго ўвайшла гаспадыняй маладая жонка, а потым, як прынята, і «плод кахання» з'явіўся, — а гэта ўжо сям'я. Жыві і радуйся кожнаму дню. Асабліва калі ўлічыць, што яны для яго вельмі і вельмі спрыяльныя. І сям'я ў радасць, і прыбытковая праца ў камерцыйнай фірме, і, як вынік — поўны дастатак, што ў нашы дні далёка не кожнаму выпадае.

Аднак хутка ўсё перакрэсліла новая «бізнесменская» паездка ў Расію. Даставіў груз у цэласці-захаванасці ў тэрмін. Тут бы і адпачыць трохі, узнавіць сілы. Бо што галоўнае для вадзіцеля? Сілы, свежасць, бадзёрасць, рэакцыя, сабранасць — без гэтага лепей не садзіцца за руль. І тыя, хто суправаджаў груз, прапаноўвалі адпачыць. Праўда, не вельмі настойліва. Але ён тут павінен быць гаспадаром становішча, за ім — апошняе слова.

Потым я перакінуўся словам са Сцяпанам Таўровым у перапынках паміж судовымі пасяджэннямі. Ён і пасля ўсяго таго, што здарылася, лічыў сябе ўсё роўна «класным шафёрам».

Як ні дзіўна, сябе ён не вінаваціў — ні ў чым, не змог ацаніць крытычна тое, што адбылося. Галоўнага ён тады так і не зразумеў.

Карацей, наш герой гнаў свой вялікагрузны «МАЗ» з цяжкім прычэпам назад у Мінск, дамоў. Спяшаўся, але не перавышаючы, праўда, скорасці. Брала сваё стомленасць: як-ніяк за няпоўныя двое сутак дзелавой мітусні адно на мытні падрамаў меней за гадзіну.

Ніжэй і ніжэй схілялася галава, жмурыліся-сціскаліся вочы. Калі разамкнуў павекі, то з жудасцю ліхаманкава вывернуў руль улева, каб не ўрэзацца ў прычэп трактара, які рухаўся наперадзе. Выскачыў на сустрэчную паласу руху, прама ў лоб скараснай іншамарцы.

Мушу думаць, можа, і не адбылося б гэтай цяжкай і трагічнай падзеі — сям'я з чатырох чалавек ператварылася ў крывавую мешаніну, — калі б не прычэп, які не паддаваўся кіраванню, быў няспраўны: ён і знёс другім ударам, пасля самога «МАЗа», верх легкавушкі, адкінуў у кювет, з усяе сілы ўрэзаўся ў бярозу...

Ну а потым — суд. Напачатку раённы, па месцы здарэння. Ён і вынес прыгавор: пяць гадоў пазбаўлення волі і немагчымасць кіраваць транспартным сродкам такі ж час пасля адбыцця турэмнага зняволення.. Пры гэтым зняволенне прадугледжвалася адбываць у калоніі-пасяленні для тых, хто ўчыніў злачынства па неасцярожнасці. Акрамя таго, як водзіцца, кампенсацыя матэрыяльных страт, а таксама судовых выдаткаў.

Праўда, хутка па патрабаванню сваякоў загінуўшых Мінскі абласны суд перагледзеў справу і павялічыў тэрмін зняволення да васьмі гадоў. А сям'і няма... Якое гора — слоў не знайсці. Хаця, калі быць поўнасцю аб'ектыўным, вялікае гора і ў сям'і віноўніка гэтай дарожнай трагедыі. Ды і яму самому — не дай Бог нікому — вельмі і вельмі цяжка, хай нават і будзе ўзорна працаваць і паводзіць сябе ў калоніі-пасяленні...

Прызнацца, нешта накшталт спагады варухнулася ў мяне ў грудзях. Асабліва гледзячы на яго самога, жонку ягоную, прыгнечаную нечалавечым горам, іх дзяўчо-малечу. Але паўставала ў памяці іншая сям'я, душу сціскаў іншы малюнак на «магілёўцы». Прыпаміналася ўпартасць «класнага вадзіцеля-шафёра» Сцяпана Таўрова. Што ж, ну а як потым?.. Пройдзе час, шмат вады сплыве, і ён, безумоўна, зноўку сядзе за руль, нягледзячы на свой «чорны лёс». Нягледзячы на тое, што і прыціснулі яго, як і ўсіх, з кім ён сутыкнуўся, чорныя крылы гора-бяды.

Так, пройдзе час, нешта загоіцца перш-наперш у яго, і ён будзе зноўку дабівацца свайго — «прафесіянал», не бачыць свайго жыцця без машын.

Гэтыя думкі навеяны ў сувязі са справай Сцяпана Таўрова. Ці адчуў ён поўнасцю, да глыбіні душы ўсё тое, што здарылася з ім, пакажа час.

Упэўнены ў адным: пакуль і яго сваімі чорнымі крыламі прыціснула, прыдушыла гора горкае, цяжарам легла і на яго сям'ю.

**Алег ФОМЧАНКА.**

**Ад рэдакцыі.** *Прозвішча галоўнага героя па розных прычынах зменена.*

*УСМЕШКА МАСТАКА*




**Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.**

# МАХІНАТАРЫ ПРАЛІЧЫЛІСЯ...

Следчым падраздзяленнем УУС Мінаблвыканкама закончана расследаванне ў адносінах да двух работнікаў аднаго з маладзечанскіх прадпрыемстваў, якія выкарыстоўвалі сваё службовае становішча ў асабістых крымінальных мэтах.

Галоўны бухгалтар завода разам з эканамістам аддзела збыту ў грузавыя мытныя дэкларацыі ўносілі фальшывыя звесткі, у прыватнасці па акцызах. У падатковую інспекцыю ішлі фальсіфікаваныя разлікі. Махінацыі цягнуліся з кастрычніка 1995 года, а заніжэнне сум акцызнага падатку склала 2 мільярды 87 мільёнаў рублёў.

**Міхась БЕРАСТ.**

# АНАПА — ГОРАД «БАГАТЫХ»?

У сталіцы супрацоўнікамі ўпраўлення па г. Мінску Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры МУС РБ у 7.30 раніцы былі затрыманы трое жыхароў горада Анапа Краснадарскага краю. Дарэчы, усе трое — раней судзімыя. Як стала вядома, яны з 11 ліпеня без адпаведнай рэгістрацыі пражывалі ў адной з кватэр па вуліцы Пляханава. У гасцей з поўдня былі знойдзены і канфіскаваны 256 фальшывых грашовых купюр вартасцю 100 долараў ЗША кожная. Усе абставіны гэтай справы, а таксама паходжанне фальшывых «баксаў» зараз высвятляюцца.

**Наш. кар.**

# ШАШКІ

## ЗВЕРЫМ РАШЭННІ?

У мінулым шашачным аддзеле мы прапанавалі нашым чытачам адразу тры эцюды нашага знакамітага аўтара Мікалая Грушэўскага.

Спачатку прыводзім поўнае аўтарскае рашэнне гэтых трох кампазіцый.

**Эцюд № 1**. 1. de7! d:f6 2. bc3 fg5 3. c:h4=.
2. ... de3 3. c:a1=.
2. ... fe5 3. c:a1=.
2. ... de5 3. c:a1=.
2. ... ba1? 3. c:h8x.
1. ba5? dc5!! 2. d:b4 bd4 3. bc5 d:b6 4. a:c7 d:b6x.
3. ac7 d:b6 4. bc5 de5 5. c:a7 eb8x.

**Эцюд № 2.** 1. ... ab8 dc7 2. de7 gh2 3. b:d6 h:b8 4. ef8=.
1. ... ga7 2. dc7 d:b6 3. be5=.
1. ... gh2 2. ba7 h:c7 3. ad4=.
1. ... ab4 2. dc7 d:b6 3. be5=.
1. ... gd4 2. ba7 dg1 3. ab8 gd4 4. ba7= бясконцае рашэнне.

**Эцюд № 3**. 1. be5 bc5 2. gf6 d:g5 3. h:a3 ef2 4. eg3 f:h4 5. ad6x.
1. ... de7 2. ed4 e:c5 3. gf6 e:g5 4. h:a3x.
1. ... ed2 2. ec3 d:b4 3. gf6 d:a5 4. h:a3x.
1. ... ef2 2. h:e1 d:h4 3. e5-g3x.
1. bf4? ab4!=.
1. ba7? dc7! 2. a:f2 ce5=.

Цяпер паглядзім, што кажуць пра гэтыя заданні нашы чытачы. Аляксандр Кіслы з г. п. Узда лічыць, што эцюд № 1 мае моцны лжывы след: 1. ba5? dc5! 2. d:b4 bd4 3. ac7 d:b6 4. bc5 de5 5. e:a7 cb8x. Адсутнасць камбінацыйных разгалінаванняў збядняе твор. Упрыгожвае эцюд цікавы варыянт з запіраннем простай белай на полі a7 пры ходзе 1. ba5?

Мінчанін Леанід Ахрэм адшукаў яшчэ адзін падманлівы след: 1. dc7? d:b6! і белыя выйграюць.

Эцюд № 2 М. Грушэўскага не выклікаў шмат пярэчанняў. Толькі А. Кіслы лічыць, што недахопам гэтага твора з'яўляецца зацягванне рашэння ў варыянце 1. ... gd4 2. ba7, напрыклад, 2. ... dg1 3. ab8 gb6 4. ba7 bg1 5. ab8 і г. д., а таксама адсутнасць выбару працягу гульні з боку белых.

Добры эцюд №3, лічыць А. Кіслы. У ім нечаканая ахвяра дамкі ў галоўным варыянце ўпрыгожвае твор. Гэты эцюд прыязна адзначыў і Л. Ахрэм. Асноўная ацэнка — ён нібы ўзяты з практычнай гульні.

Іншыя чытачы, якія даслалі свае адказы, абмежаваліся, на жаль, толькі тэхнічным запісам рашэння эцюдаў.

## ЭЦЮДЫ АЛЕНЫ САБАЛЕЎСКАЙ

Мы неаднойчы змяшчалі ў нашых шашачных аддзелах канцоўкі нашай чытачкі з г. п. Іўе Гродзенскай вобласці Алены Сабалеўскай. Сёння мы выносім на суд чытачоў два яе эцюды.

**№ 1. Белыя:** a5, b6, c3, c5, e1, f2, h4 (7). **Чорныя**: a7, b8, d8, e7, f6, g3, g5, h6 (8). **Выйгрыш.**

**№ 2. Белыя:** дамкі a1, c1, g1 (3). **Чорныя:** дамка h8, простыя e5, e7, f6, h4 (5). **Выйгрыш.**







Аўтар эцюдаў Алена Сабалеўская чакае даведацца думку чытачоў «Звязды» — аматараў шашак наконт яе твораў, пачуць іх ацэнку.

Нагадваем: адказы трэба дасылаць на адрас рэдакцыі «Звязды»: 220013, Мінск, вул. Багдана Хмяльніцкага, 10 а.

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

# КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

**Перакладзіце на беларускую мову наступныя словы.**

**Па гарызанталях:** 5. Приказ. 6. Аист. 10. Уважение. 11. Любитель. 13. Цвет, оттенок. 15. Пейзаж. 16. Беседа. 19. Свёкла. 21. Приложение. 22. Цифра. 23. Пример. 24. Недостаток. 28. Очередь. 30. Очки. 31. Каблук. 35. Журнал. 36. Зонт. 37. Почет, честь. 39. Скряга. 40. Обувь. 41. Слог. 42. Хохот.

**Па вертыкалях:** 1. Март. 2. Холка. 3. Юмор. 4. Испуг. 7. Поляна. 8. Рисунок. 9. Ожерелье. 12. Лист. 14. Ломоть (хлеба). 17. Спичка. 18. Воздух. 20. Льдина. 22. Вздор. 25. Утро. 26. Восклицательный знак. 27. Комната. 29. Гроздь, кисть. 32. Шут. 33. Занавеска. 34. Счет. 37. Крыльцо. 38. Строка.

**Склаў Аляксандр СТАРАВЫБАРНЫ.**

*г. Ашмяны.*



# ПА КРУГУ

На малюнку ў выдзеленых клетках, якія размяшчаюцца па кругу, можна прачытаць беларускую народную прыказку. Але спачатку трэба разгадаць словы, што размешчаны па радыусах.

1. Паўднёвае пладовае цытрусавае дрэва сямейства рутавых. 2. Аптычны квантавы генератар. 3. Насценны дыван ручной работы. 4. Тоўстая трывалая вяроўка з валокнаў або з дроту. 5. Травяністая эфіраалейная расліна, якая скарыстоўваецца як прыправа. 6. Металургічная печ для выплаўкі чыгуну з жалезнай руды. 7. Дазорная вышка пажарнай часці. 8. Палоска зямлі, падрыхтаваная для вырошчвання агародніны, кветак. 9. Лясная пеўчая птушка атрада вераб'іных; кедраўка. 10. Бахчавая расліна з вялікімі салодкімі пладамі. 11. Адзінка вымярэння колькасці цеплыні. 12. Спартыўны снарад з капронавай або металічнай сеткай, які выпрацоўвае прыгучасць. 13. Лінія ўяўнага судакранання неба з зямной або воднай паверхняй. 14. Газ, які атрымліваецца ў выніку злучэння вугляроду з вадародам. 15. Прыстасаванне для ручнога прадзення кудзелі, воўны. 16. Штучны насып для затрымання вады ў вадасховішчы, пры разліве ракі і г. д. 17. Аснова, на якой манціруюцца асобныя вузлы машыны або станка. 18. Прылада для ўтрамбоўвання пяску, зямлі, шчэбеню. 19. Сталярны інструмент. 20. Цвёрды коўкі метал, сплаў жалеза з вугляродам. 21. Спецыяльны стэнд у магазіне для дэманстрацыі тавараў. 22. Правы або левы край фронту ў распалажэнні войскаў. 23. Аб'яднанне некалькіх звязаных паміж сабою прадпрыемстваў у адно. 24. Збожжавая культура. 25. Натуральная плынь, якая злучае два вадаёмы. 26. Метад, характар работы, дзейнасці, паводзінаў.



**Склаў Аляксандр САНКЕВІЧ.**

*г. Мінск.*

# ГАЛАВАЛОМКА

Спачатку разгадайце пяць слоў. Потым адшукайце ключык да разгадкі слоў вядомай прыказкі.




1. Расліна — пустазелле з калючым лісцем. 2. Прыгнёт, ярмо, няволя. 3. Металічныя званочкі, бразготкі. 4. Неядавіты паўзун нашых мясцін. 5. Пара года.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**

*Клецкі раён.*

# КРЫПТАГРАМА

Спачатку разгадайце тры ключавыя словы:

а) 1-2-3-4-5-6-7-8-2 — вельмі дакладны гадзіннік; б) 9-10-11-9-12-3 — беларуская газета; в) 13-14-8 — паўсядзённае жыццё з устаноўленымі правіламі, звычаямі, прывычкамі.

Потым, карыстаючыся гэтымі словамі, а, дакладней, літарамі з іх, памяняйце аднолькавыя лікі на аднолькавыя адпаведныя літары, запішыце літары ў клеткі малюнка. Цяпер уважліва паглядзіце на малюнак крыптаграмы і адшукайце спосаб прачытаць вядомую прымаўку.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**

*Лагойскі раён.*



# ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**КРЫЖАВАНКА (25 ліпеня). Па гарызанталях:** 9. Алтар. 17. Сухамлінскі. 19. Вахта. 20. Трыер. 23. Рэпін. 25. Папар. 26. Алфавіт. 28. Веранда. 29. Даватар. 30. Кавалёнак. 31. Біном. 34. Варатар. 36. Скрыган. 37. Тэніска. 38. Анчар. 40. Віхар. 41. Калет. 42. Сымон. 44. Механізацыя. **Па вертыкалях:** 1. Трэль. 13. Туман. 14. Гастэла. 15. Анероід. 16. Склеп. 18. Тэлебачанне. 19. Віраж. 21. Раман. 22. Каталізатар. 24. Напільнік. 26. Адвакат. 27. Тачанка. 32. Барак. 33. Жылін. 35. Рэферат. 36. Скрыпач. 39. Ранет. 40. «Вожык». 43. Літар. **Па акружнасці:** 1. Трактар. 2. Радыёпрыёмнік. 3. Колас. 4. Сабака. 5. Агурок. 6. Карп. 7. Паром. 8. Макаўка. 9. Алмаз. 10. Зямля. 11. Яблык. 12. Крот.

**ЛЕТНЯЯ ГАЛАВАЛОМКА (25 ліпеня)**. Ключык да яе такі: пачынаць трэба з ніжняга кружочка з літарамі «КА», потым ісці па лініях, што злучаюць паміж сабой наступныя кружочкі. Чытаецца такая прыказка: «Касіць добрага надвор'я не чакаюць».

**КРЫПТАГРАМА (25 ліпеня).** Ключавыя словы ў ёй такія: верасень, ціск, чалма. Прымаўка была зашыфравана такая: «Не месца красіць чалавека, а чалавек месца».

## Усё пра ўсё

### ПРЫХІЛЬНАСЦЬ МУЗЫ

**Муза, як вядома, дама капрызная. Яна прыходзіць да чалавека і пакідае яго, калі пажадае, але ўжо калі каму яна даруе сваю прыхільнасць, то шчодрасць яе не ведае межаў. Рабіце высновы самі.**

**Карла Гальдоні** напісаў 155 п'ес, Лопэ дэ Вэга — аўтар 1800 п'ес, казаў, што на кожную трацію па 24 гадзіны. У Бернарда Шоу «ўсяго» 52 п'есы.

**Жуль Верн** стварыў больш як 100 раманаў, аповесцяў, апавяданняў, навукова-папулярных кніг. Конан-Дойл толькі Шэрлаку Холмсу прысвяціў 4 раманы і 56 апавяданняў. У **Вальтэра Скота** быў зарок — пісаць штодня па 45 старонак, што ён і рабіў. Першыя 12 раманаў ён напісаў за 7 гадоў, а ўсяго стварыў больш як 25 раманаў (і вельмі аб'ёмных), 15 аповесцяў, выдаў некалькі зборнікаў перакладаў. За 2 гады ён напісаў 9-томнае «Жыццё Напалеона Банапарта». У поўным зборы твораў **Льва Талстога** 90 тамоў. Калі сабраць усё, што стварыў **Аляксандр Дзюма,** атрымаецца 1200 тамоў. З-пад пяра **Мапасана** выйшлі 300 навел і 6 раманаў, амаль усе яны былі напісаны на працягу 10 гадоў. «Чалавечая камедыя» **Бальзака** складаецца са 100 раманаў і аповесцяў. О'Генры напісаў 250 апавяданняў. **Айзек Азімаў** — аўтар 100 навукова-фантастычных твораў і 50 навукова-папулярных кніг. **Апост Радэн** стварыў 56 мармуровых скульптур, такую ж колькасць бронзавых, 193 у гіпсе і больш як 2 тысячы малюнкаў. Колькі было зроблена **Пікасо**, не ведаў нават ён сам, лічбу называў прыблізную — некалькі тысяч карцін, малюнкаў, эскізаў.

**По матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

# Казярогаў чакаюць сумныя звесткі, а Блізнят — выйгрыш у латарэі

## Усходні гараскоп на наступны тыдзень

КАЗЯРОГА чакаюць сумныя звесткі. Магчыма, прычынай вашага сардэчнага болю стане вераломства даўняга сябра ці блізкага сваяка. Калі так, не жадайце ім горшага, наведайце Храм гасподні і звярніцеся да Стваральніка з просьбай давесці да розуму тых, хто «не ведает, что творит». К канцу тыдня дэпрэсія пройдзе. Перыяд, спрыяльны для буйных пакупак і ўкладання сродкаў у нерухомасць.

ВАДАЛЕЙ па-алімпійску спакойны і эфектыўна кантралюе абстаноўку, якая хутка мяняецца. Нехта сарве вялікі куш праз пасрэдніцкія паслугі ці рэкламную дзейнасць. Адвакат атрымае бліскучую перамогу ў скандальным судовым разборы. Даб'юцца прыкметнага поспеху асобы, занятыя навуковымі ці іншымі даследаваннямі. Рыцар, памятайце аб тым, што звычайны букет кветак здольны зрабіць сапраўдны цуд.

РЫБЫ, не кідайце справу на паўдарозе да завяршэння, яна можа стаць для вас каменем на шыі тапельца. Будзьце гатовыя да таго, што вас абвінавацяць у чужых грахах. Праявіце максімум асцярожнасці пры грашовых аперацыях, каб пазбегнуць вялікіх страт. Тыдзень, неспрыяльны для ўладальнікаў аўтатранспарту. Вас амаль напэўна падхопіць віхура рамантычнага захаплення.

Перад АВЕНАМ адкрываюцца новыя спрыяльныя магчымасці. Яны звязаны ў першую чаргу з бізнесам і прасоўваннем па службовай лесвіцы. Тыя, хто часова апынуўся ўбаку, атрымаюць прывабную прапанову працаўладкавання. Адзінокая дама набудзе аддананага паклонніка, надзеленага мноствам добрых якасцяў. Серада і пятніца — ідэальныя дні для спатканняў закаханых.

ЦЯЛЬЦА не раз выручыць аналітычны склад розуму. Вы знойдзеце выйсце нават з тупіковай сітуацыі. Дзелавое партнёрства, якое апынулася на мяжы краху, набудзе другое дыханне. Не спяшайцеся ў пачатку тыдня падпісваць якія-небудзь дакументы — праз дватры дні кан'юнктура ў вашай сферы дзейнасці можа крута змяніцца. У вас прачнецца цікавасць да акультных навук і іншых тайнаў быцця.

Большасць БЛІЗНЯТ атрымаюць нечаканыя грошы. Фартуна ўсміхнецца нават бедакубамжу. Паспрабуйце набыць дзесятак латарэйных білетаў — верагоднасць выйгрышу на гэтым тыдні даволі высокая. Можна паспытаць шчасця і за зялёным сталом, але не трэба рабіць высокія стаўкі. Жаночая прадпрымальнасць будзе шчодра ўзнагароджана. У пачатку тыдня пазбягайце любых спрэчак.

Уласцівая РАКУ тонкая інтуіцыя дапаможа разблытаць клубок праблем, хутчэй за ўсё, звязаных з бізнесам ці фінансамі. Верагодна, банкір сярэдняй рукі заключыць даволі выгадную здзелку. Служачы зробіць важны крок на шляху дасягнення сваіх кар'ерных памкненняў. Прыемныя навіны могуць паступіць з-за мяжы. У канцы тыдня вас чакае моцны эмацыянальны выбух.

Калі ЛЬВУ і прыгатаваны ўзрушэнні, дык выключна ў справах сардэчных. Што датычыцца работы і прадпрымальніцтва, дык ніякіх непрыемнасцяў не прадбачыцца. Тыя, хто чакаюць важнага рашэння «зверху», атрымаюць станоўчую рэзалюцыю. Астролаг рэкамендуе правесці маючы адбыцца водпуск не на Канарскіх астравах, а ў ціхай вёсачцы. Вакол дамы кружыцца занадта надакучлівы паклоннік.

На астралагічным гарызонце ДЗЕВЫ ясна бачны нейкія важныя жыццёвыя перамены. Не выключана, што вы вырашыце змяніць месца работы ці паехаць у іншы горад. Магчымы замарочкі, звязаныя з уласнасцю. Многіх чакаюць вялікія расходы. Некаму з вашых сяброў ці сваякоў можа спатрэбіцца тэрміновая дапамога. Абавязкова апранайце на гэтым тыдні што-небудзь белае ці блакітнае.

У ШАЛЯЎ на пачатку тыдня могуць узнікнуць крыўдныя перашкоды, выкліканыя неспрыяльным становішчам планет. Набярыцеся цярплівасці і прыміце рэчы такімі, якія яны ёсць. На гэтым этапе абставіны вышэй за вас і пераламаць іх не ўдасца. Адкладзіце важныя справы да чацвярга, калі фартуна верне вам сваю прыхільнасць. Успышка несправядлівага гневу можа падарваць адносіны з каханым чалавекам.

Працуйце, СКАРПІЁН, але не чакайце неадкладнай аддачы. На гэтым тыдні вас чакае пераважна работа на перспектыву. Завяжаце карысны кантакт з уплывовай персонай, блізкай да ўрада ці гарадской адміністрацыі. Працуючая дама будзе стомлена нуднай руцінай. Не мяняйце месца работы, хутка абставіны зменяцца да лепшага. Прыслухайцеся да самаадчування.

СТРАЛЬЦУ пастаянна давядзецца то чакаць, то даганяць. Калі праявіце належныя цярплівасць і мэтанакіраванасць, дык пачняце прасоўванне ад перыферыі падзей да іх эпіцэнтра. Вашы таленты атрымаюць усеагульнае прызнанне. Адзіны магчымы неспрыяльны фактар — рызыка зрабіць памылку, звязаную з грашамі ці фінансавымі дакументамі. Нядаўняе любоўнае захапленне раптоўна згасне.

**Сяргей БУЛАНЦАЎ, кар. ІТАР-ТАСС.**

## ВІНШАВАННІ

*Шчыра віншуем любага сына і брата* ***Сяргея Віктаравіча ГАСЦІЛУ*** *з 25-годдзем. Жадаем добрага здароўя, ладу і дабрабыту ў сям'і.*

**Бацькі і брат з сям'ёй,** г. Навагрудак.

*Віншуем з днём анёла дарагую сястрычку* ***Ганначку*** *з в. Заполле.*

*Пусть будет в жизни все что нужно, чем жизнь бывает хороша.*
*Любовь, здоровье, счастье, дружба и вечно добрая душа.*

**Браты Міша, Дзіма, Андрэй Русіны,** г. Ляхавічы.

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння любую дачушку* ***Вольгу Уладзіміраўну КУЛАКОЎСКУЮ.*** *Жадаем здароўя, радасці, шчасця.*

**Бацькі,** в. Кароткавічы.

## ПЕСНІ НАРОДАЎ БЕЛАРУСІ

# РОЗПРЯГАЙТЕ, ХЛОПЦІ, КОНІ

Украінская народная песня «Розпрягайте, хлопці, коні» надта пявучая. Яе любяць на Беларусі, у Расійскай Федэрацыі, за мяжою. Мелодыя і змест песні выклікаюць рамантычныя мроі, нагадваюць пра таямнічасць спатканняў, юнацкіх захапленняў, абуджаюць прагу ўзаемнасці.

У нашы дні песня «Розпрягайте, хлопці, коні» часта гучыць на сцэнічных падмостках. Аднак найчасцей яе спяваюць за бяседным сталом.

*Нагадаем, што ва ўкраінскім вымаўленні гучыць «е», як беларускае «э», «і» — «і», «и» — «ы».*

**Міхась ШАВЫРКІН.**




*Розпрягайте, хлопці, коні*
*Та лягайте спочивать,*
*А я піду в сад зелений,*
*В сад криниченьку копать*.*

*Копав, копав криниченьку*
*У вишневому саду...*
*Чи не вийде дівчинонька*
*Рано-вранці по воду?*

*Вийшла, вийшла дівчинонька*
*В сад вишневий воду брать,*
*А за нею козаченько*
*Веде коня напувать.*

*Просив, просив відеречка —*
*Вона йому не дала,*
*Дарив, дарив з руки перстень —*
*Вона його не взяла.*

*«Знаю, знаю, дівчинонько,*
*Чим я тебе розгнівив:*
*Що я вчора ізвечора*
*Із другою говорив.*

*Вона ростом невеличка*
*Ще й літами молода,*
*Руса коса до пояса,*
*В косі стричка голуба».*

* Апошния два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком, носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.779. Індэкс 63850.
Зак. № 4602.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12